*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 9 (644) 3 САКАВІКА 2004 г.

# З вясной, беларусачкі!



***Дарагія жанчыны!***

***ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" шчыра віншуе Вас з Святам вясны 8 сакавіка. У працяг традыцыі гэтага Дня, які дастаўся нам з мінулага, мы схіляемся перад яе вялікасцю Жанчынай і жадаем вам, вашым сем'ям, сябрам, знаёмым моцы і шчасця, радасці і дабрабыту, плёну і здзяйснення ўсіх задумаў, мараў. Невыпадкова жаночы дзень адзначаецца вясною. Вясна ў прыродзе і жыцці чалавека – гэта абуджэнне, абнаўленне, надзея.***

***Жанчына-маці не толькі ахоўніца сваёй сям'і, але і захавальніца роднай мовы. Невыпадкова, калі мы гаворым пра нашую мову, дадаем – матчына.***

***Дарагія матулі і бабулі, дзяўчынкі, дзяўчаты і маладзіцы! Хай заўсёды з вашых вуснаў гучыць і набірае моц найпрагажэйшае мілагучнае роднае слова. Хай палоніць яно душы і сэрцы тых, хто побач з вамі. Пачуйма яго ў булькатанні веснавых ручайкоў, у вясёлых птушыных спевах ды ў гомане беларускіх лясоў.***

***Прынята на Сакратарыяце 25.02.2004 г.***

## УЛАДЫ АДМОВІЛІСЯ АД СПРОБАЎ СТВАРЭННЯ МЕНСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ГУМАНІТАРНАГА ЛІЦЭЯ

Улады адмовіліся ад спробаў стварэння Менскага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя. Пра гэта ў інтэрвію БелаПАН паведаміў кіраўнік Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа Уладзімір Колас. Ён нагадаў, што 15 студзеня калектыў навучальнай установы адзначаў Дзень ліцэя ў двары будынка навучальнай установы па вуліцы Кірава, 21. "Мы канстатавалі, што будынак пустуе і ў ім не праводзяцца рамонтныя работы, у той час як больш за 100 адораных ліцэістаў знаходзяцца на вуліцы. Вось чаму мы зноў звярнуліся да прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, прэм'ер-міністра Сяргея Сідорскага і міністра адукацыі Аляксандра Радзькова з прапановай разглядзець пытанне аб вяртанні дзецям будынка навучальнай установы. 5 лютага мы атрымалі ліст ад міністра адукацыі, а 18 лютага — ад прэзідэнта краіны. Прычым усе гэтыя адказы падпісаны начальнікам галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Уладзімірам Шчэрбам", — сказаў У. Колас.

Паводле яго слоў, адказы не ўтрымліваюць нічога новага за выключэнем таго, што выказваецца шкадаванне з прычыны беспаспяховай спробы стварэння Менскага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя на базе ліквідаванага Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

"Са свайго боку мы мяркуем, што ў такой сітуацыі будынак ліцэя не будзе выкарыстоўвацца ў навучальных мэтах. Калектыў выкладчыкаў ліцэя, навучэнцаў і іх бацькоў пратэстуе супраць гэтага і заяўляе, што як толькі ў краіне адновіцца вяршэнства закона, мы будзем дабівацца вяртання будынка навучальнай установы яго законным уладальнікам", — падкрэсліў У. Колас.

У інтэрвію БелаПАН У. Шчэрба зазначыў, што Менскі дзяржаўны гуманітарны ліцэй не ўдалося стварыць з-за таго, што "не паступіла ніводнай заявы" ад дзяцей і іх бацькоў на навучанне ў гэтай навучальнай установе.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## "Бярозка" ў небяспецы

***ЗВАРОТ ДА ЎЛАДНЫХ СТРУКТУРАЎ І ГРАМАДЗЯН КРАІНЫ***

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" выказвае сваю занепакоенасць у сувязі з ліквідацыяй адзінага дзяржаўнага беларускамоўнага часопіса для дзяцей і падлеткаў "Бярозка", які робіць важкі ўнёсак у выхаванне і фармаванне патрыятычных пачуццяў юных грамадзян нашай краіны Вельмі прыкра, што адбываецца гэта падчас 80-гадовага юбілею выдання. Калектыў рэдакцыі — замест таго, каб рыхтавацца да свята — знаходзіцца на ростані.

Таварыства беларускай мовы прапануе ўладным структурам, ад якіх залежыць лёс "Бярозкі", захаваць для нашай школьнай моладзі гэтае ўнікальнае ў сваім родзе выданне.

Заклікаем грамадзян краіны сказаць сваё важкае слова ў абарону часопіса.

*Прынята на сакратарыяце ТБМ*
*25 лютага, 2004 года.*

## Адбыліся змены да лепшага

Днямі мы падпісалі дамову са ЖРЭА Партызанскага раёна г. Менска аб арэндзе нашая сядзібы да 31 сакавіка. Ёсць спадзяванне, што арэнда будзе працягнута і надалей. Кіраўніцтва ТБМ выказвае шчырую падзяку ўсім грамадзянам Беларусі і замежжа, а таксама грамадскім арганізацыям, журналістам, дыпламатам розных краін, якія аказалі нам маральную падтрымку сваімі зваротамі да ўладаў Беларусі па станоўчым вырашэнні пытання аб месцазнаходжанні сядзібы ТБМ.

*Старшыня ГА ТБМ Алег Трусаў.*

## Веснавы падарунак ад "Белпошты"




УП "Белпошта" зрабіла выдатны падарунак беларускім філатэлістам, выпусціўшы малы аркуш паштовых марак "Лясныя і садовыя ягады" ў 15 наміналаў. Назвы ягад на марках пададзены на беларускай і лацінскай мовах, што цалкам адпавядае міжнародным стандартам і правілам.





# Клопаты фрунзенцаў

Фрунзенская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны г. Менска зарэгістравана як грамадскае аб'яднанне ў Адміністрацыі Фрунзенскага раёна г. Менска 18 ліпеня 2000 г. (Пасведчанне № 2-004). Юрыдычны адрас арганізацыі: 220123, г. Менск, вул. В. Харужай, 16 (Бібліятэка імя Я. Купалы). На жаль, у Фрунзенскім раёне юрыдычны адрас атрымаць не ўдалося, ды і зарэгістраваць яе ў Адміністрацыі Фрунзенскага раёна было надзвычай цяжка. Паўгода бесперапынных клопатаў тагачаснага старшыні Фрунзенскай арганізацыі ТБМ Віктара Андрэевіча Бекіша, нарэшце, далі плён. Былі сабраны ўсе неабходныя дакументы, і нашу арганізацыю зарэгістравалі.

Фрунзенскай арганізацыяй ТБМ імя Ф. Скарыны кіруе рада, абраная 20 верасня 2002 г. на агульным сходзе прадстаўнікоў суполак у складзе 7 чалавек.

1. Чэчат Алесь Віктаравіч — старшыня.

2. Бекіш Віктар Андрэевіч — намеснік старшыні.

3. Лапенка Аляксей Купрыянавіч — намеснік старшыні.

4. Стрыгельская Наталля Анатольеўна — сябра рады.

5. Юркова Мілана Аляксандраўна — сябра рады.

6. Якшэвіч Алег Мікалаевіч — сябра рады.

7. Дэц Алена Георгіеўна — сябра рады.

У складзе рэвізійнай камісіі 3 чалавекі:

1. Ярхова Алена Іванаўна — старшыня.

2. Юшкевіч Наталля Аляксандраўна — сябра камісіі.

3. Герасімовіч Казімір Станіслававіч — сябра камісіі.

У склад Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф. Скарыны ад Фрунзенскага раёна абраны Алесь Чэчат, Ніна Мікуліч і Сяргей Язерскі.

Многія сябры суполак ТБМ раёна актыўна ўдзельнічаюць ва ўсіх значных акцыях і мерапрыемствах, якія праводзяцца пад эгідай Рады і Сакратарыту Рэспубліканскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Так, актывістамі ТБМ раёна было сабрана звыш 600 подпісаў пад зваротам за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Збіраліся таксама подпісы пад зваротам у камітэт па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем афармлення тавараў беларускай вытворчасці па-беларуску.

Больш тысячы подпісаў сабралі пад зваротам і адправілі на імя начальніка Менскага метрапалітэна Н. Т. Андрэева сябры ТБМ Менскага педагагічнага каледжа № 1 з патрабаваннем змены назвы станцыі метро "Плошча імя Леніна" на "Плошчу Незалежнасці" і афармлення станцый на беларускай мове.

Зараз актыўна збіраюцца подпісы пад зваротамі да старшыні Менгарвыканкама М. Я. Паўлава з прапановай адмены рашэння мясцовых улад Партызанскага раёна г. Менска аб высяленні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" з памяшкання па вул. Румянцава, 13 і да старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь Я. У. Рыбакова з патрабаваннем спынення дыскрымінацыі беларусаў па моўнай прыкмеце і аднаўлення беларускай мовы на тэлебачанні ў поўным аб'ёме.

Рада ТБМ Фрунзенскага раёна г. Менска ў межах акцыі "Супрацоўніцтва з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі РБ "Па выкананні дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" (гл. "План работы ТБМ на 2002 г.) спрабавала наладзіць супрацоўніцтва з адміністрацыяй Фрунзенскага раёна. На імя кіраўніка адміністрацыі раёна ў сакавіку 2003 г. было накіравана пісьмо з прапановай пашырыць сетку беларускамоўных школ у раёне. На сённяшні дзень толькі ў гімназіі № 4 навучанне вядзецца па-беларуску.

Звярталіся таксама сябры Рады ТБМ ў Адміністрацыю Фрунзенскага раёна па пытанні беларускамоўнага аўдыёвізуальнага афармлення вуліц і будынкаў у раёне.

Летам 2001 г. сябры Рады ТБМ прыклалі шмат намаганняў, каб зарэгістраваць у якасці назіральніка на выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь намесніка старшыні Фрунзенскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны Бекіша Віктара Андрэевіча ў складзе Фрунзенскай раённай камісіі па выбарах у г. Менску. Былі своечасова сабраны і прадстаўлены ў Адміністрацыю Фрунзенскага райвыканкама г. Менска загадчыку аддзела арганізацыйнай і кадравай работы Главацкай С. П. усе неабходныя дакументы, але гэта, на жаль, вынікаў не дало.

Вялася актыўная работа сярод настаўнікаў, бацькоў і вучняў СШ № 136, 193, 99, 116, 156 аб перспектывах навучання на роднай мове.

У красавіку 2001 г. сябры Рады ТБМ у прыватных гутарках, а таксама на бацькоўскіх сходах звярталіся да адміністрацыі школ раёна, настаўнікаў, бацькоў вучняў з нагоды правядзення прымусовых палітінфармацый у навульных установах Беларусі (гл. "Зварот Сакратарыята ТБМ да журналістаў, настаўнікаў і бацькоў з нагоды правядзення прымусовых палітінфармацый у навучальных установах Беларусі" ад 5 красавіка 2001 г.)

Найбольш дзеяздольнымі суполкамі ў раёне з'яўляюцца: суполка выкладчыкаў і навучэнцаў педкаледжа №1, гімназіі № 4, СШ № 193, "Спаемства".

Шмат робіцца сябрамі суполкі ТБМ у педкаледжы № 1. Тут часта ладзяцца сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі і навукоўцамі, праводзяцца прэзентацыі новых кніг. Толькі за мінулы год гасцямі навучэнцаў і выкладчыкаў былі літаратары Генадзь Бураўкін, Яўген Лецка, Генадзь Тумаш, Леанід Пранчак, Дзмітрый Бугаёў, Алесь Савіцкі, Язэп Янушкевіч і многія іншыя. Нашы навучэнцы наведваюць многія мерапрыемствы ў Доме літаратара, у Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, у бібліятэцы імя Ф. Багушэвіча, Літаратурных музеях Я. Купалы і Я. Коласа



*Красавік 2003 г. Аўтографы навучэнцам педкаледжа № 1 Грыгаровічу Андрэю і Шумскай Яўгеніі дае бард Эдуард Акулін*

Традыцыйяй сталі Дэкады беларускай мовы і літаратуры, конкурсы на лепшы твор пэўнай тэматыкі. У нас дзейнічаюць літаратурная суполка "Маладзічок" (куратар-кіраўінік В. К. Рамацэвіч і творчая суполка "Рада журналістаў" (куратар-кіраўнік А. В. Чэчат). У асноўным іх сіламі выдаецца ў каледжы шматтыражная газета "Веснік педкаледжа". За два гады выйшла 8 нумароў (перыядычнасць — адзін нумар у квартал). Гэта бадай адзіная газета такога кшталту сярод сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў Беларусі. Газета выходзіць на беларускай мове і з'яўляецца своеасаблівым летапісам жыцця педагагічнага каледжа. Суполка ТБМ каледжа з ахвотай падтрымлівае акцыі Сакратарыяту і Рады ТБМ. Удзельнічалі навучэнцы ў кастрычнікулістападзе 2002 г. у месячніках "Спяваем па-беларуску" і "Размаўляем па-беларуску". Падтрымалі сваімі подпісамі зварот да начальніка УП "Менскай гарадской тэлефоннай сеткі" І. Б. Жабко супраць пераводу службы "088" на рускую мову (09.04.2002 г.) Многія навучэнцы і асобныя выкладчыкі бралі ўдзел у семінары "Я магу жыць лепей" (2001 — 2002 г.), а ў 2003 г. — у гістарычным семінары для моладзі. Сябры суполкі ахвотна набываюць і дапамагаюць распаўсюджваць значкі і каляндарыкі з сімволікай ТБМ, многія з іх рэгулярна падпісваюцца на газеты "Наша слова" і "Новы час".

Цікава ў 2002 г. прайшла ў каледжы акцыя "Купі беларускую кнігу". Прычынай для яе прывядзення стала тое, што ў кнігарнях г. Менска на працягу некалькі гадоў слаба раскупляліся танныя і патрэбныя будучым настаўнікам роднай мовы і літаратуры кнігі. У ходзе яе кожны навучэнец набыў па 8-12 кніг.

Сябры суполкі ТБМ педкаледжа № 1 рэгулярна і поўнасцю ўносяць штогадовыя складкі на рахунак Рэспубліканскай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны, па меры неабходнасці збіраюць ахвяраванні.

На жаль, пасведчанні сяброў ТБМ новага ўзору маюць на пачатак 2004 года 63 чалавекі са 165 (38%).

Цікавым асяродкам беларускасці з'яўляецца суполка "Спаемства". На пачатак 2004 г. у ёй налічвалася 13 сяброў. Кіруе ёй Сяргей Андрэевіч Язерскі. Яна працуе ўжо восьмы год (з 1996 г.). Кірунак яе дзейнасці навукова-даследчы. Пасяджэнні праводзяцца 2 разы на месяц. За гэты час яны правялі амаль 150 пасяджэнняў, актыўна удзельнічаюць у многіх акцыях ТБМ.



***Выкладчыкі і навучэнцы педкаледжа № 1 на экскурсіі ў філіяле музея Янкі Купалы "Акопы"***

Можна адзначыць многіх сяброў ТБМ Фрунзенскага раёна. Гэта В. К. Раманцэвіч, В. А. Бекіш, А. К. Лапенка, Н. М. Мікуліч, Н. А. Стрыгельская, А. В. Грыгор'еў, А. І. Ярхова, А. М. Якшэвіч, А. Г. Дэц і інш. Працуецца ім нялёгка, адчуваецца вялікі адміністрацыйны ўціск.

Як аказалася, некаторыя ў шэрагах ТБМ аказаліся з кан'юктурных меркаванняў. Адзін маладзён разлічваў, што ТБМ дапаможа яму паступіць у ВНУ. А калі спроба стаць студэнтам не ўдалася, ён дэманстратыўна здаў у сядзібу ТБМ пасведчанне і значок ТБМ, дадаўшы заяву, што з ТБМ парывае, бо яно не дапамагло пры паступленні і прыёмная камісія, нягледзячы на значок сябра ТБМ на лацкане яго пінжака, выставіла яму па беларускай мове "нездавальняюча".

Не менш прыкры выпадак здарыўся і з суполкай "Кальварыйская Рада" (8 чалавек), арганізаванай 1,5 гады назад. Яна арганізоўвалася, аказваецца не з мэтай пашырэння ў грамадстве беларускай мовы, а з тым, каб лягчэй было зарэгістравацца ў якасці назіральнікаў на выбарах у мясцовыя саветы ад грамадскага аб'яднання. У гутарцы са старшынём высветлілася, што яны самараспусціліся, так і не заплаціўшы ніводнага рубля складак.

Многа праблем з падпіскай на нашы газеты ("Наша слова", "Новы час"), з афармленнем пасведчанняў сяброў ТБМ новага ўзору, са зборам складак і ахвяраванняў — гэта значыць там, дзе справа датычыць грошай. У сувязі з гэтым і па іншых прычынах мы страцілі за апошнія 6 гадоў шмат сваіх сяброў і тых, хто нам спачуваў. Так у 1998 г. на ўліку ў 12 суполках ТБМ Фрунзенскага раёна знаходзілася 566 сяброў. Але калі людзі 5-6 гадоў не плацяць складкі, не падтрымліваюць арганізацыю матэрыяльна, то навошта ёй такія "мёртвыя душы". У снежні быў праведзены пераўлік усіх сяброў ТБМ Фрунзенскага раёна г. Менска, які засведчыў, што ў 10 суполках на пачатак 2004 г. знаходзіцца 250 сяброў.

Наперадзе нас чакае нялёгкая, але так неабходная нацыянальнаму Адраджэнню праца!

***Старшыня Фрунзенскай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны г. Менска***
***Алесь Чэчат.***

**На 10 студзеня 2004 г. у 10 суполках на ўліку было 250 чалавек**

| № п/п | Назва суполкі | Старшыня суполкі | Тэлефон хатні | К-сць сяброў | Складкі за 2003 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Менскі педкаледж № 1 | Чэчат Алесь | 258-75-18 | 156 | + |
| 2. | СШ № 193 | Ярхова Алена | 258-43-18 | 14 | + |
| 3. | СШ № 136 "Артадзеі" | Шык Кірыл | 255-12-74 | 4 | + |
| 4. | Гімназія № 4 "Берагіня" | Мікуліч Ніна | 258-62-38 | 20 | + |
| 5. | Бібліятэка імя Ф. Багушэвіча | Стрыгельская Наталля | 254-56-13 | 3 | + |
| 6. | "Спаемства" | Язерскі Сяргей | 251-72-77 | 13 | + |
| 7. | "Сухараўская" | Сяргейчык Аляксей | 215-61-61 | 6 | + |
| 8. | "Кальварыйская" | Лапенка Аляксей | 223-04-07 | 10 | + |
| 9. | Аб'яднаная № 1 | Красоціна Тамара | 252-18-92 | 7 | + |
| 10. | Аб'яднаная Фрунзенскага раёна | Дэц Алена | 250-05-54 | 17 | + |
| | Усяго | | | 250 | |





# Памерла беларускай

Гэтымі днямі памерла мая сястра. Я перабіраў яе паперы. На вочы трапіўся часопіс "Марк. Евангелле Марка ў сучасным рускім перакладзе. Біблія для нашага жыцця". Я прапусціў яе старонкі праз пальцы. Нечакана з часопіса вылецеў перакладзены ўдвая аркушак паперы. Я разгарнуў яго. Рукою сястры было напісана:

*"Загадчыку кардыялагічнага аддзела Бараўлянскай раённай лячэбніцы Шаўлоўскаму Віталю Сігізмундавічу*

***Заява***

*Прашу адпусціць мяне на выхадныя дні 14-га і 15-га лютага па сямейных абставінах.*
*13.02.2004. Хворая 13-ай палаты Баранава Марыя Іллінічна".*

Гэтая заява кранула мяне да глыбіні душы. Сястра напісала яе за некалькі дзён да сваёй раптоўнай смерці. Гэта быў яе першы афіцыйны зварот на роднай мове да кіраўніка медыцынскай установы. Я доўга думаў, што ж яе скіравала на такі крок?

Заяву яна напісала трынаццатага.

Дванаццатага я праведаў яе. Яна ляжала ў трынаццатай палаце. З хворымі трынаццатай палаты і з сястрой у мяне ўсталявалася даверлівая беларуская гаворка. Мы жартавалі, паддавалі адзін аднаму настрою. На развітанне я надзяліў усіх хворых 13 палаты выданнямі нашага Таварыства. Менавіта - "Нашым словам", "Новым часам". Хворыя трынаццатай палаты дружненька тут жа ўнурыліся ў нашы газеты. Пасля майго адвітання яны яшчэ доўга абмяркоўвалі маю беларускую візіту да іх. Пэўна, пад настроем нашай беларускай гаманы яна і напісала згаданую заяву. Гэта быў яе апошні пісьмовы аўтограф. Родная мова не была для яе чужая. Яна скончыла беларускамоўную школу. Не цуралася яе, не выракалася. З усімі беларускамоўнымі размаўляла роднай моваю. Прайшла праз мурманскае расійскамоўнае выпрабаванне. На гэтай мове заўсёды гаварыла наша мама... Яна і жыла да апошняга часу з мамаю, чула штодня яе жывую мормальскую гамонку.

Шмат перажыта з сястрою. Прыгадваецца чэрвень 1944 года... Мы ў бежанцах пад Бабруйскам. І от прыйшло жаданае вызваленне. "Ну што, дзеці, сказала мама, застанемся тут ці будзем дабірацца дадому?"

"Дадому, дадому!" - весела заскакала сястрычка. "Ты ж яшчэ слабенькая. Толькі яшчэ выходзіш з хваробы..." "Не і не!..Толькі дадому!" - зноў заенчыла сястрычка. Было ёй тады чатыры. Але як яна жвава прагла таго дому, якога не памятала! Дзе на руках, а дзе подбегам, учапіўшыся за мамін падол, яна рвалася ў той кут, дзе нарадзілася зімою 1941 года.

Пасля яшчэ не адзін раз вярталіся з ёю дадому... І от настаў нечаканы фінал. Яе заява на імя загадчыка кардыялагічнага аддзела Бараўлянскай лячэбніцы на нашай роднай мове – гэта свядомае грамадзянскае далучэнне да таго клопату, якім жыву я, якім жывем і ўсе мы, сябры Таварыства беларускай мовы. Менавіта гэтак я зразумеў яе парыванне!

Не стала сястры. Засталася толькі яе заява. Заява гэтая на роднай мове светлы прамень для мяне на ўсё жыццё.

**Уладзімір Содаль.**

## *ВЫТОКІ НАШАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ*

# Дыпламатычныя захады БНР

Сёння, праз 86 гадоў пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, яшчэ і яшчэ дзівішся нязломнай мужнасці яе ўтваральнікаў. Ва ўмовах то нямецкай, то польскай, то савецкай акупацыі яны, нібы якар, стараліся з усяе моцы не толькі ўтрымаць і захаваць, пад шалёнымі навальніцамі ідэю нашай незалежнасці, але і замацаваць яе ў стасунках з іншымі дзяржавамі. Гэта надзвычай важна – адстойваць свае нацыянальныя інтарэсы, паказваць акружаючым нас народам, чаго мы вартыя, у чым нашая адметнасць, якая нашая гісторыя.

Але і пасёння практыка прапаганды сваёй культуры, свайго месца ў свеце мае ў Беларусі своеасаблівую "афарбоўку".

На дыпламатычных прыёмах амаль заўсёды даводзіцца назіраць адну і тую ж ганебную з'яву: нават калі выступленні замежных дыпламатаў гучаць у беларускіх перакладах, нашыя прадстаўнікі ўпарта прамаўляюць толькі на адной – расейскай – мове. Праўда, 16 лютага, на святкаванні Дня аднаўлення незалежнасці Літвы, калі на мове краіны, дзе ён знаходзіцца, прагучала прамова пасла Літвы сп. Паслаўскаса, наш намеснік міністра замежных спраў сп. Міхневіч ці не ўпершыню за ўсю гісторыю сваёй дыпламатычнай практыкі азваўся таксама ... па – беларуску!

Прачытаўшы гэты радасны радок, горка ўсміхнецца той, хто напакутаваўся ад пастаяннай дыскрымінацыі роднай мовы, ад абыякавасці дзяржаўных асобаў, якія нават па сваёй службе абавязаныя дбаць аб суверэнітэце і беларускай культуры, і напэўна прыгадае, якімі яны былі – першыя сапраўды беларускія міністры ва ўрадзе БНР, як у галодныя і халодныя гады ваеннага віхурнага жыцця яны, рызыкуючы сваімі жыццямі, упарта даводзілі свету, што Беларусь – ёсць, што яна вуснамі сваіх прадстаўнікоў выказала імкненне быць незалежнай.

Таму мы сёння зноў друкуем дакументы з кнігі "Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі" (том 1. кніга 1). Няхай самі чытачы пераканаюцца, аб якой падтрымцы "нямецкіх штыхоў", што, на вялікі жаль, усё яшчэ выкарыстоўвае афіцыйная прапаганда ў дачыненні да БНР, можа ісці гаворка. Якраз жа тут, у гэтай ноце, найбольш і вызначаюцца тыя гульні з Нямеччынай, якія бальшавіцкая Расія вяла за кошт Беларусі. Як мы бачым, адной з галоўных умоваў т. зв. Брэсцкага міру (Берасцейскай умовы) было непрызнанне Нямеччынай новых дзяржаўных утварэнняў. Чаму? Ды таму, што Расія, нават бальшавіцкая, была заўсёды зацікаўленая ў захаванні тэрыторыі былой Расійскай імперыі і падпарадкаванні ёй іншых народаў. Мала дасведчаныя ў складанейшых палітычных варунках таго часу людзі часам падтрымліваюць гэты і іншыя міфы, накшталт таго, што БНР нібыта – нямецкае ўтварэнне, а таксама многія іншыя міфы з навязаных нам чужых поглядаў на падзеі нашай даўніны, што ўсё яшчэ зацьмяняюць нашую гістарычную і палітычную свядомасць і дзеля зжывання якіх і была заведзеная ў газеце рубрыка "Вытокі нашай незалежнасці."

*(Заўвага: на пачатку стаіць нумар дакументу з архіваў БНР.)*

***Вольга Іпатава.***

**1086. Нота Надзвычайнай Дэлегацыі Рады БНР (Кіеў) старшыні Нямецкага Райхстагу й Райсхканцлеру Нямеччыны (Бэрлін) за 18.10.1918.**

**П. Нямецкаму Імпэрскаму Канцлеру.**
**П. Старшыні Нямецкага Рэйхстага.**

Правамочны прэдстаўнічы орган Беларускага Народу і ўсіх жыхароў Беларусі, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, атрымаўшая сваю ўладу ад Ўсебеларускага Кангрэссу, каторы адбываўся у сьнежні 1917 года у месьце Менску, абвясьціла актам 25 марца 1918 г. Беларусь Незалежнай Дзержавай, абнімаючай усю тэрыторыю разсяленьня Беларускага Народу, а ласьне: былўшыя расейскія губэрні Гродзенскую, Віленскую, Менскую, Вітэбскую, Магілеўскую і часьці Смаленскай, Чарнігаўскай, Сувалскай і другіх суседніх губэрняў.

Беларускі Урад своечасна абвясьціў аб гэтым акце ўсе вялікія дзержавы, просючы іх прызнаць дзержаўную незалежнасьць Беларусі. Пачакаўшы, Рада звярнулася да вярхоўнай ўлады Нямеччыны з прозьбай аб абароне беларускае дзержаўнасьці і аб падтрыманьні яе. На абодва гэтыя звароты ад Нямеччыны атрыманы быў атказ, гаворучы, што перашкодай да прызнаньня незалежнасьці Беларусі з'яўляецца Берасьцейская умова паміж Нямеччынай і Расейскай Социалістычнай Савецкай Федэратыўнай Рэспубликай, каторай Нямеччына абязалася не падтрымліваць новых дзержаўных твораў на тэрыторыях бышай Расеі.

На перадодні агульнага міру, калі ўжо апрацовываюцца асновы справедлівага і згоднага жыцьця народаў, перад Беларускай Дзержавай паўстае грозная небясьпека. На усходзе ўсё яшчэ пануя анархія, заўсёды гатовая перакінуцца і ў межы Беларусі, прыносючы с сабой жахі крывавага тэррору і поўнага развалу дзержаўнага жыцьця. Беларусь, у каторай за час оккупацыі былі адабраны ўсе магчымасьці організавацца, у прыпадку атходу оккупацыйных войск застанецца сусім безпомачнай, бязсільнай устрымаць разруху і распаўсюджэньне анархіі. Алі калі анархія захопя Беларусь, гэтым ей безумоўна палегчыцца магчымасьць далейшага паходу на захад.

Трэба адзначыць, што Берасцейская ўмова, звязаўшая Цэнтральныя Дзержавы ў справе прызнаньня Незалежнасьці Беларусі, у даны момэнт можа лічыцца да канца утраціўшай сілу з прычыны прыняцьця ваюючымі старанамі прынцыпаў Вільсона.

Такім парадкам у даны момэнт прызнаньне Нямеч-чынай незалежнасьці Беларусі з'ўляецца вельмі сваечасным і патрэбным. Яно дыктуецца ня толькі патрэбамі Беларусі, але і патрэбамі самой Нямеччыны. Не кажучы ужо аб справедлівасьці, вымагаючай прызнаньня адбыўшагася самаадзначэньня Беларускага Народу, а гэтак сама аб моральнай адказнасьці Нямеччыны за далейшую долю Беларусі, якая цяпер знаходзіцца ў яе руках, непрызнаньне Нямеччынай незалежнасьці Беларусі і выцекаючая адсюль патрэба вывада оккупацыйных войск з Беларусі будзя безумоўна мець вынікі, непамысныя для Нямеччыны і яе палітыкі на ўсходзе.

Дзеля гэтага Надзвычайная Дэлегацыя дзеля замежных перагавораў, зьвертаючыся па загаду свайго Ўраду да Ўраду Нямецкае Імпэрыі ў асобе Вашае Каралеўскае Высокасьці (да Нямецкага Народу ў асобе Старшыні Нямецкага Рэйхстагу), прося прызнаць Дзержаўную Незалежнасьць Беларусі і даць магчымасьць Беларускаму Ураду здзейсьніць прыналежныя яму функцыі дзержаўнага будаўніцтва і ўпраўленьня, а разам з гэтым організаваць аружную сілу дзеля самаабароны.

Дэлегацыя спадзяецца, што памысная развязка гэтых пытаньняў паслужа асновай для прыязных адносін паміж абедзьвымі дзержавамі у будучыне.

**Старшыня Антон Луцкевіч**
**Пісар Антон Аўсянік**

**18 кастрычніка 1918 г.**
**м. Кіеў.**

---

**1203. Зварот паўнамоцнага прадстаўніка Ураду БНР у Варшаве да ўраду Польскай дзяржавы за ??.04.1919.**

**Да высокага Ураду Польскай Дзержавы.**

Ад імяні Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, як яго упаунамочны прэдстаунік, маю гонар зьвярнуцца да Высокага Ураду Польскай Дзержавы с просьбай аб узнаньні Беларускае Народнае Рэспублікі і яе незалежнасьці і аб завязаньні сталых стасункау яе Урадам грунтуючыся на ніжэй паданых фактах:

У сьнежні 1917 году у Менску адбыуся Усебеларускі Конгрэс, на якім воля Беларускаго Народу была выяулена з усей мажліваю паунатой (Конгрэс меу каля 2.000 дэлегатау ад усіх гмінау этнографічнай Беларусі). Першая пастанова Конгрэса, прынятая аднагалосна, устанауляе Беларускую Рэспубліку і гаворыць аб недзялімасьці яе тэрыторыі. Выбраная Когрэсам Рада, дапоуніушы сябе прадстаунікамі усіх нацыанальных меншасьцяу краю (палякау, жыдоу і інш.), а таксама і важнейшых культурных і экономічных арганізацый і мейсцовых самоуправау прыняла імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і усе функцыі законадаучаго органу.

Выконуючы даручэньне Конгрэса яна стварыла 19\11-1918-году Першы Беларускі Урад, актам ад 9-III-1918-году абвесьціла Беларускую Народную Рэспубліку Незалежнаю і Вольнаю Дзержаваю.

Тэкст апошняго акту дзеля яго асаблівай важнасьці прыкладаецца.

Нямецкая окупацыйная улада, якая панавала на Беларусі у 1918 г.хоц(ь) ні магла знішчыць беларускае дзержаунасьці, аднак безканечна гамавала працу Беларускага Ураду. Зьмяніушая яе маскоуская окупацыйная улада (савецкая) павяла з Беларускім Урадам зацятую барацьбу. Урад і усе яго агенты абвешчаны по за правам. З гэтай прычыны Беларускі Урад, на чале якога стаіць цяпер п. Антон Луцкевіч, атрымаушы ад Рады Рэспублікі самыя шырокія упаважненьня, змушаны быу пакінуць Менск і перавесьціся у Горадню і Коуну. Цяпер беларускія землі займаюць войскамі Польскай Дзержавы. Офіцыальные асьвядчэньні прэдстаунікоу Польскаго Ураду запэуняюць у тым, што гэтая войсковая опэрацыя не мае ніякіх мэтау анэксыйных, а толькі чыста стратэгічныя, што польскія войскі нясуць вольнасьць на абшары гістарычнай Літвы для усіх яе Народау. Адвечныя сьвязі і сымпатыі, якія існуюць паміж Польскім і Беларускім народамі даюць право надзеяцца, што адносіны Польскаго Ураду да Беларускай Народнай Рэспублікі будуць шмат прыхільнейшымі ад адносінау папярэдніх акупантау.

Цяпер, як ніколі Польскі Урад мае і поуную магчымасьць чынам выявіць свае адносіны да беларускай дзержаунасьці. З боку фармальнаго таму німа перашкоду. Народ беларускі выразна заявіу аб сваім праві на дзержауное істнаваньне. Акт самавызначэньня стауся. Беларускі Урад просіць цяпер толькі аб узнаньні гэтаго акту і усіх выплываючых з яго вынікау.

**Паунамочны Прэдстаунік Ураду**
**Беларускай Народнай Рэспублікі:** ***(Подпіс).***

*(**Заўвага:** У канцы гэтага дакументу ёсць тлумачэнне: "Дакладная дата невядомая. Магчыма, гэты зварот перадаў Пілсудскаму Аркадзь Смоліч падчас адмысловай аўдыенцыі."—В. І.)*





# ПРА СВЯТА НА ВУЛІЦЫ І ІНШАЕ

У беларускай літаратурнай мове больш за 6000 фразеалагізмаў. Яны склаліся шматлікімі і разнастайнымі спосабамі і шляхамі. Адзін са спосабаў – эліптычны, гэта значыць утварэнне фразеалагізмаў у выніку скарачэння прыказак. Такім чынам узніклі, па нашых падліках, каля сотні выразаў – гэтых сапраўдных залацінак народнай мудрасці. Так, з прыказкі ***"Старога вераб'я на мякіне не правядзеш"*** (яна абазначае *"дасведчанага чалавека не ашукаеш"*) утварыліся фразеалагізмы ***стары верабей*** і ***на мякіне не правядзеш*** (каго). Адпаведна і значэнне прыказкі размеркавалася паміж яе фрагментамі (*"дасведчаны чалавек"* і *"не перахітрыш, не абдурыш каго-небудзь"*).

Далей гаворка пойдзе пра пяць выразаў, узніклых параўнальна нядаўна. Яны яшчэ не ўвайшлі ў акадэмічныя слоўнікі фразеалагізмаў, але актыўна выкарыстоўваюцца ў маўленні, запаўняючы належную ім нішу ў моўнай сістэме.

З даўніх часоў жыве ў народнай мове прыказка ***"Будзе і на нашай вуліцы свята"***. Яна змешчана, часам з нязначнай варыянтнасцю, у многіх фальклорных зборніках ці падборках XIX ст. – у працах А. Рыпінскага, Е. Тышкевіча, П. Шпілеўскага, І. Насовіча і інш. Яе ўжываюць у цяжкі час як выказванне ўпэўненасці ці спадзявання, што няўдачы мінуцца, што будзе і ў нас радасць. Так, у трылогіі Я. Коласа "На ростанях" чытаем: "Нічога, Аксён, будзе свята і на нашай вуліцы. Надыходзіць час расплаты за здзекі над народам". На аснове гэтай прыказкі, у выніку адрыву ад яе пераасэнсаванага, метафарычнага спалучэння, склаўся фразеалагізм ***свята на вуліцы*** (чыёй). Ён мае сэнс *"здзяйсненне чыіх-небудзь надзей, жаданняў"*. Напрыклад: "Аматары футболу і прыхільнікі нашай зборнай нарэшце дачакаліся свята на сваёй вуліцы" (ЛіМ. 6.04. 2001). Яшчэ прыклады (у скарочаным выглядзе), якія сведчаць, што нядаўна народжаны выраз укараняецца ў маўленчую практыку: "адбылося свята на Кастусёвай вуліцы" (С. Александровіч), "каб ведаў вораг пра свята на нашай вуліцы" (Я. Брыль), "сёння на маёй вуліцы свята" (Э. Валасевіч), "і на беларускай вуліцы свята" (А. Вярцінскі).

Прыказка ***"Ваўка ногі кормяць"*** абазначае *"каб пракарміцца, трэба шукаць харчы, турбавацца, а не сядзець на адным месцы"*. Вось адзін з прыкладаў яе рэалізацыі ў маўленні: " – Але ж ты лазіш, хлопец... – Ваўка ногі кормяць. А заўтра мяне ўжо не будзе. Ні тут, ні ў лагеры" (І. Пташнікаў). Гэта прыказка стала зыходнай формай фразеалагізму ***ногі кормяць*** (каго), што значыць "чыя-небудзь плённая праца патрабуе беганіны, амаль сталага знаходжання ў руху". Сінтаксічныя сувязі фразеалагізму (здольнасць кіраваць толькі пэўным склонам – вінавальным) застаюцца такім ж, якія былі ў прыказцы: "Каб ты ведаў, той чалавек, якога я шукаў на вуліцы Русіянава, прызнаўся ў трох забойствах. Два – у нас, адно – у Расіі. Так што ногі нас кормяць, ногі..." (В. Праўдзін); "Журналіста, сама ведаеш, ногі кормяць" (А. Казлоў); "Каго з маленства кормяць ногі, таму і сам дракон не брат" (А. Вялюгін). Супаставім выкарыстанне фразеалагізму з агаленнем яго вобразнасці праз параўнальны зварот: "Думалася, цяпер у рэдакцыю яму (з пакалечанымі нагамі) ужо ніколі не вярнуцца, журналіста, як любіў і сам жартаваць, як і воўка, ногі кормяць, а якія ў яго цяпер ногі?!" (І. Капыловіч)

Сэнс прыказкі ***"З міру па нітцы – голаму сарочка (кашуля)"*** – *"ад усіх патроху – і атрымаецца нешта значнае, адчувальнае для каго-небудзь аднаго"*: "Пра цесця ў інстытуце маладыя аспіранты гаварылі, што ён працуе па прынцыпу: з міру па нітцы – голаму сарочка" (В. Гігевіч). Адарваўшыся ад прыказкі, яе першая частка стала ўжывацца самастойна, як фразеалагізм, узяўшы ад прыказкі сэнс "долю" семантыкі і звычайна рэалізуючыся пры дзеясловах-суправаджальніках *"збіраць", "сабраць"* і пад. Фразеалагізм абазначае *"ад усіх патроху"*: "Гойдаючы малое, яна заўважыла рукі, што працягвалі ёй белую хусціну: "Калі ласка". Нехта прынёс пялёнку, нехта – кавалак марлі. З міру па нітцы..." (С. Шыдлоўская).

Часам у друку можна сустрэць выпадкі, калі некаторыя аўтары імкнуцца "абеларусіць" і гэту прыказку, і фразеалагізм, утвораны на яе базе. Папершае, пішуць ***"са свету"*** замест ***"з міру"***: "Са свету па нітцы, беднаму кашуля. Бадай, гэтага прынцыпу прытрымліваліся асобныя і, дарэчы, зусім не бедныя работнікі сервісу" (Вожык. 1983. № 2); "Так Валодзька і збіраў памочнікаў, свой "мазгавы трэст" – як гаворыць. са свету па нітцы" (М. Герчык). Па-другое, замяняюць спалучэнне "з міру" нейкім іншым: "Румянцава не ўстрымалася: - Усёй грамадой па нітцы, голаму кашуля" (І. Гурскі); "Старшыня дазволіў браць салому з буртоў, дзе выбрана бульба. Дзякуй і за гэта. З кожнага па нітцы – беднаму кашуля" (В. Шырко).

У прыведзеных прыкладах сутыкаемся з несумненнай няправільнасцю, памылкай. ***Мір*** – агульнае для ўсходнеславянскіх моў, цяпер ужо ўстарэлае слова, якое абазначала ***"сельская грамада"*** (дарэчы, яно падаецца ў беларусіх акадэмічных слоўніках). Гэта слова захавалася не толькі ў названых вышэй прыказцы і вытворным фразеалагізме, але і яшчэ ў дзвюх моўных адзінках: выразе ***"ўсім мірам"*** і прыказцы ***"Што будзе міру, тое і бабінаму сыну"***.

Яшчэ адна прыказка – ***"Шыла ў мяшку не схаваеш"*** (абазначае *"немагчыма ўтаіць тое, што само сябе выдае"*) – спарадзіла два фразеалагізмы. Першы – ***як (што)шыла ў мяшку*** – назоўнікавы, выступае ў ролі выказніка, мае сэнс *"штосьці відавочнае, яўнае, якое нельга ўтаіць, схаваць"*: "Гэта факт, які ніяк нельга абмінуць, хоць калі-небудзь ды ён можа нагадаць пра сябе. Гэта як шыла ў мяшку" (У. Дамашэвіч); "Любая, нават мізэрная радасць што шыла ў мяшку. Ну паспрабуй яе схаваць" (П. Палітыка).

Другі – ***як шыла з мяшка*** – прыслоўна-акалічнасны, сваё значэнне "непазбежна, відавочна, як бы ні ўтойвалася што-небудзь" рэалізуе пры дзеясловах-суправаджальніках *"вылазіць, вылезці"*: "Які б ні быў Мароз асцярожны, а, ведама, што-нішто вылезла як шыла з мяшка" (В. Быкаў); "Усялякая штучнасць вылазіць з кароткага твора як шыла з мяшка" (Г. Каржанеўская).

Можна сцвярджаць, што ўсе фразеалагізмы, якія паходзяць з прыказак, вылучаюцца вельмі значнай ёмістасцю, лаканізуюць маўленне, бо часцей за ўсё ўспрымаюцца як бы праз прызму больш шырокага кантэксту, выклікаюць асацыяцыю з самой прыказкай, што спарадзіла пэўны выраз.

У некаторых працах, дзе гаворыцца пра ўзнікненне фразеалагізмаў на базе прыказак, робіцца паспешлівая выснова, што нібыта прыказка становіцца крыніцай фразеалагізму толькі ў "затухаючы" перыяд свайго існавання. Але такую выснову можна пацвердзіць толькі зусім рэдкімі, адзінкавымі прыкладамі. Ва ўсіх астатніх выпадках прыказкі, даўшы жыццё фразеалагізмам, не знікаюць, не перастаюць ужывацца і самастойна.

***Іван Лепешаў, прафесар, доктар філалагічных навук.***

# ЧЫТАЮЧЫ КНІГУ Л. КУЧМЫ "УКРАИНА – НЕ РОССИЯ"

Доўгі час лёсы моў карэнных нацый Беларусі і Украіны былі прыкладна аднолькавымі. Маю на ўвазе іх жорсткую дыскрымінацыю пры царскай і савецкай уладах, непрацяглую беларусізацыю і такую ж украінізацыю ў 20-я гады мінулага стагоддзя, новае моўнае адраджэнне, звязанае з аб'яўленнем незалежнасці абедзвюх рэспублік. Пасля ж прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі беларуская мова апынулася яшчэ ў большым загоне, чым пры камуністах, а перад украінскай, дзякуючы разумнай палітыкай дзяржавы, увесь постсавецкі час ззяе яркае зялёнае святло.

Ганебныя адносіны нашага правіцеля да матчынай мовы беларусаў добра ведаюць далёка за межамі краіны. Дыяметральна процілеглы погляд на родную мову ўкраінцаў мае іх лідар Леанід Кучма. Я выпісаў некаторыя яго выказванні на гэты конт з яго ж нядаўна выдадзенай кнігі "Украина – не Россия" (М., "Время", 2003), якія, мяркую, зацікавяць чытачоў газеты:

- *Кто-то сказал: "Выучу украинский, если от этого станет больше колбасы". Я почувствовал себя так, словно мне плюнули в душу.*

- *Украинизация – это восстановление справедливости, подчеркиваю: справедливости.*

- *Ни в одной статье российской прессы не прозвучала мысль, что именно украинский язык и украинская культура по-прежнему нуждаются в защите.*

- *Совершенно исключено, чтобы двуязычие стало государственной целью. На практике это была бы политика узаконенной русификации Украины.*

- *Предложения, которые вносятся по языковому вопросу, должны содействовать формированию единой украинской нации.*

- *Московский "варяг" Лазарь Каганович, ставший генеральным секретарем ЦК КП/б/ Украины в 1925 году, не знал украинского языка, но в ударном порядке выучил его, чем подал пример всему аппарату.*

- *Нежелание некоторых руководителей на востоке и юго-востоке страны пользоваться украинским языком ранит душу многих украинцев.*

- *Даже генералы советских времен перестали в наши дни стесняться говорить на всю страну по-украински.*

- *Украинский язык был близок к состоянию катастрофы. Сейчас его можно сравнить с человеком, ослабленным долгой болезнью.*

Мяне дужа ўразіў згаданы літаратурна-публіцыстычны твор прэзідэнта Украіны, пісаны больш чатырох гадоў. Чытаючы яго, па-добраму зайздросціў нацыянальна свядомым украінцам, якія цвёрда стаяць на пазіцыях сапраўднай самастойнасці сваёй краіны і маюць у гэтым моцную падтрымку з боку вышэйшай улады. Міжвольна прыгадваліся і нашы дачыненні з усходняй суседкай дый лісліўвыя выказванні Лукашэнкі накшталт такіх, як: *"белорусы – это те же русские", "Беларусь и Россия – единое целое"*... Праўда, апошнім часам яго інтэграцыйная рыторыка крыху змянілася. Таму можа сёй-той падумае, што напрыклад, фраза пра "единое целое", прагучаўшая на снежаньскай сустрэчы з губернатарам Калінінградскай вобласці, была сказана для адводу вачэй, каб стварыць патрэбнае ўражанне на расійскага госця. Гм, чаму ж тады ў нас зусім рэальна і мэтанакіравана (а не для віду!) працягваецца знішчэнне беларушчыны? І краіна, губляючы сваю нацыянальную адметнасць, усё больш ператвараецца ў колішні "Северо-Западный край, дзе, як пісаў у 1927 годзе "усебеларускіх староста **Аляксандр Рыгоравіч/!/ Чарвякоў** *"усё тое... што так ці іначай магло напамінаць, што Беларусь – гэта не ёсць Расія, - усё гэта нішчылася, праследавалася, выпальвалася агнём ды жалезам"* /А.Чарвякоў. "Я ніколі не быў ворагам". Мн., "Беларусь", 1992/.

Вернемся, аднак, да кнігі Кучмы. Выказваючы ў ёй погляды на стасункі з Расіяй, ён робіць такія высновы: паўсюдна ўсё менш людзей лічыць Украіну неад'емнай часткай Расіі, якая маўляў, адкалолася ад апошняй па нейкаму незвычайнаму недаразуменню або нават дзівацтву. Каб з цягам часу гэткія меркаванні зрабіліся зусім экзаты ***"нужно і полезно констатировать, напоминать і разъяснять, что Украина – не продолжение і не филиал России і вообще не Россия. Я прызываю своих читателей делать это во всех уместных случаях, особенно за границей".***

З задавальненнем выконваючы, з дапамогай газеты ТБМ, просьбу Леаніда Данілавіча, не магу абысці бокам і яго тлумачэнні на гэты конт. Справа ў тым, што ў дзвюх краін розны гістарычны лёс, розны нацыянальны досвед, рознае адчуванне, зусім непадобныя культурна-моўныя сітуацыі, прынцыпова розныя адносіны да геаграфічнай і геапалітычнай прасторы, неаднолькавая рэсурсная база, розная палітычная вага ў свеце, непараўнальныя магчымасці для ўзаемаўплыву...

Аўтар называе пералічаныя непадабенствы "нашымі /г. зн. Украіны і Расіі. – Г.Л./ асимметриями". Яшчэ ў большай ступені бачыцца мне асіметрычнасць, калі параўноўваць Беларусь з Расіяй. Гэта не ў апошнюю чаргу звязана, у прыватнасці, з тым, што мы знаходзімся яшчэ ніжэй Украіны па такіх важных паказчыках, як тэрыторыя, насельніцтва, прыродныя рэсурсы і г. д. Што да гістарычнага лёсу, дык, думаецца, беларусам бліжэй суровая доля украінцаў, чым рускіх. Хаця б таму, што ў свой час Расія захоплівала і далучала да сябе і беларускія, і украінскія землі, дзе ўсталёўваўся нацыянальны прыгнёт. Хтосьці даўно, але трапна сказаў: украінец з беларусам стагоддзямі адну долю на двух дзялілі...

Трэба зазначыць, што ў аб'ёмістай кнізе Кучмы налічваецца чатырнаццаць раздзелаў, у якіх разглядаюцца самыя складаныя і балючыя тэмы ў дачынення двух народаў. На добрай літаратурнай мове /тэкст не перакладзены, а напісаны па-руску/, без мудрагельства ідзе гаворка пра далёкае мінулае, аб падзеях XX стагоддзя і апошніх гадоў. Як сапраўдны патрыёт сваёй Бацькаўшчыны аўтар ганарыцца нацыянальнымі героямі стойкімі змагарамі за незалежнасць Украіны, падкрэслівае, што ні Расійскай Імперыі, ні СССР не ўдалося зрабіць яе "частью себя" або "невычленяемой частью". Ён быў бы рад, калі б яго твор прачыталі некаторыя расійскія палітыкі з рэпутацыяй дэмакратаў і "еўрапейцаў". Перш-наперш тыя, погляды якіх на Украіну амаль не адрозніваюцца ад уяўлення "какого-нибудь бывшего функционера КПСС со Старой площади".

А мне хацелася б, каб нашы дзяржаўныя чыноўнікі, пачынаючы з самага галоўнага, узялі на ўзбраенне ўкраінскі досвед нацыянальнага самасцвярджэння, будаўніцтва свайго дому, захавання і пашырэння сферы ўжытку мовы карэннай нацыі... Я веру аўтару кнігі, бо калі ён пісаў яе, дык глядзеў праўдзе ў вочы. Немалаважна і тое, што на старонках твора няма нічога антырускага. ***"Да, Украина – это не Россия***, - піша Кучма, - ***но это совсем не повод плохо относиться к России. Для меня во всяком случае".***

Упэўнены: калі б у гэтай цытаце на месцы слова ***"Украина"*** стаяла слова ***"Беларусь"***, дык пад ёй падпісаліся б мільёны нашых суайчыннікаў.

*Генадзь Лагуновіч.*

## МЕНСКАЯ КІНАСТУДЫЯ "ТАЦЦЯНА" ЗНЯЛА ДАКУМЕНТАЛЬНЫ ФІЛЬМ ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

Менск, 25 лютага. Менская кінастудыя "Таццяна" завяршыла працу над дакументальным фільмам пра Васіля Быкава (аўтар сцэнарыя стужкі Ірына Пісьменная, рэжысёр — Мікалай Дзінаў).

Як паведаміла БелаПАН кінадраматург Браніслава Лобан, прадстаўнік студыі "Таццяна", стваральнікі хацелі зрабіць не традыцыйны ў звыклым паняцці фільм, у якім бы "расказвалася біяграфія". "Нам хацелася зрабіць штосьці такое, каб засталася памяць аб гэтым выдатным чалавеку, — сказала яна. — І вырашылі зняць фільм-рэквіем".

Паводле слоў кінадраматурга, гэта расказ аб людзях, якія бачылі ў Васілі Быкаве "вялікага пісьменніка, цікавага чалавека, які разважае сучасна, і, канечне, не прынятага дзяржавай". "Героі фільма расказваюць аб сяброўстве з В.Быкавым і момантах зносін з ім", — зазначыла яна. Пра Васіля Быкава ўспамінаюць вядомыя літаратары і сябры пісьменніка Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Мехаў і іншыя.

*Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ, БелаПАН.*

## *Віншуем сяброў ТБМ, што нарадзіліся ў сакавіку*

Адаміна Алена
Андрэас Анатоль
Антонава Алена
Арочка Ларыса
Аскерка Анатоль
Астаповіч Галіна
Бабко Таццяна
Бандарэнка Юлія
Бародзіч Ганна
Баршчэўскі Лявон
Барэль Таццяна
Баўсюк Мікола
Бахцізіна Кацярына
Бермант Раіса
Бойка Сяргей
Бубула Вольга
Бутылін Міхась
Васільчанка Мікола
Владыкевіч Алеся
Войшніс Фаіна
Вянгура Ніна
Вячорка Францішак
Гаркавая Людміла
Герасімовіч Валянцін
Гук Ганна
Гуркоў Канстанцін
Дапкюнас Жанна
Дарашкоў Сяргей
Дзіцэвіч Рычард
Дзмітруковіч Вольга
Дзямчук Таццяна
Другакова Марына
Дрык Людміла
Дубіцкі Уладзімір
Дыдышка Ніна
Дэц Алена
Ермаловіч Валянцін
Жалкоўскі Аляксандр
Задаля Валерый
Занкевіч Сяргей
Згірскі Міхаіл
Здзітавец Алена
Каваль Ірына
Кавальчук Дзмітрый
Казлова Аляксандра
Капковіч Вольга
Карабач Марыя
Каралёва Таццяна
Кашкур Іосіф
Кечанкоў Мікалай
Кірылаў Герман
Клімавец Яўгенія
Козел Ларыса
Конічава Галіна
Корань Вольга
Крук Ларыса
Кунцэвіч Уладзімір
Кухаронак Валянціна
Лапенка Аляксей
Лапіцкі Аляксей
Латушка Ірына
Леўшукоў Андрэй
Ліннік Мікалай
Лісоўскі Тарас
Ліцьвінчук Наталля
Лукашук Марыя
Лысюк Станіслаў
Майсеёнак Алена
Макар Юры
Малажай Галіна
Малашанка Зміцер
Марачкін Аляксей
Марус Алена
Мельнікава Анжэла
Мельнікава Святлана
Мельнікава Таццяна
Мерцалава Надзея
Мінава Вера
Мухіна Надзея
Мяцюн Таццяна
Носава Галіна
Падгайскі Мікалай
Паўлавец Зьміцер
Паўлюковіч Ніна
Пацюпа Юры
Пералайка Мікалай
Праконіна Вера
Пухоўскі Аляксандр
Пяткевіч Аляксей
Райчонак Алег
Раманоўская Яніна
Рамашкевіч Ірына
Рамашэўская Людміла
Русянчук Марта
Рымша Ангеліна
Санько Зміцер
Саўчанка Марыя
Севастьянава Ганна
Сідарэвіч Святлана
Сінькевіч Сяргей
Стаціўка Мікалай
Стэпусь Васіль
Суравіцкі Віталь
Сушко Вера
Сцямпкоўскі Сяргей
Сырыца Віктар
Сянкевіч Васіль
Табушава Ірма
Тамулёнак Мікалай
Толсцік Вольга
Трацяк І.І.
Хабян Вольга
Харашылава Тамара
Чарняўская Святлана
Чашчына Наталля
Шагулін Алег
Шадыра Вадзім
Шарах Генадзь
Шаргаева Святлана
Якубоўская Таццяна
Якубук Наталля
Яноўская Марыя

# Весткі ад беларусаў Прыбайкалля

Днямі ад нашых суайчыннікаў з Іркуцка, сяброў Таварыства беларускай мовы, мы атрымалі прыемныя падарункі. Старшыня Рады Алег Рудакоў даслаў нам апошнія нумары "Маланкі" – газеты Таварыства, і кішэнныя каляндарыкі "Беларусы Прыбайкалля" на 2004 год.

На каляндарыку змешчана фота беларусаў, якія святкуюць Каляды, і сімволіка аб'яднання. На адвароце – каляндарная сетка і надпіс "Жыве заўжды Беларусь і Беларускі Народ!" "Маланка" знаёміць сваіх чытачоў з справамі Таварыства. На яе старонках – цікавыя матэрыялы пра вечарыну, прысвечаную паўстанню 1863 года, якую ладзілі разам з польскай нацыянальна-культурнай аўтаноміяй; пра юбілейны канцэрт фальклорнага ансамбля "Ленушка", якому споўнілася 15 гадоў; пра тое, як беларусы Прыбайкалля святкавалі сёлета Каляды.




Надзвычай цікавы артыкул "Невядомыя факты з біяграфіі Яна Чэрскага і яго сям'і". Імя гэтага вядомага вучонага, ураджэнца Беларусі носіць Іркуцкае таварыства.

Акрамя гэтага, рэдакцыя газеты на сваіх старонках віншуе сваіх сяброў з Днём народзінаў, змяшчае матэрыялы пра іх жыццёвы шлях.

*Наш кар.*

## У НЕКАЛЬКІХ ПОЛЬСКІХ ГАРАДАХ УВЕКАВЕЧАНА ІМЯ СЛАВУТАГА ПОЛЬСКАГА МУЗЫКАНТА, ВЫХАДЦА З БЕЛАРУСІ, ЧЭСЛАВА НЕМАНА

У некалькіх польскіх гарадах увекавечана імя славутага польскага музыканта, выхадца з Беларусі, Чэслава Немана.

Як паведаміла ўплывовая польская "Газета Выборча", "імем Ч. Немана названа вуліца ў горадзе Сталёва Воля". Акрамя таго, памяць вядомага польскага музыканта ўвекавечаная ў Беластоку. Вуліца імя Чэслава Немана таксама з'явіцца ў Варшаве і іншых населеных пунктах Польшчы.

Чэслаў Неман (Чэслаў Выдрыцкі) нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Старыя Васілішкі Гарадзенскай вобласці. У 1958 годзе разам з сям'ёй выехаў у Польшчу на пастаяннае месца жыхарства. У пачатку 60-ых гадоў Неман стаў адным з вакалістаў папулярнага гурта "Нябеска-чарныя", які выконваў біт. У 1967 годзе ён стварыў уласны гурт — "Акварэлі". Па ацэнках крытыкаў, Чэслаў Неман у сваёй творчасці адышоў ад устаялых канонаў эстраднай музыкі, і некаторы час музычны кірунак, у якім ён працаваў, трактаваўся як скандальны. Павінна было прайсці некалькі гадоў і выйсці некалькі дыскаў, перш чым Немана ацанілі па заслугах.

"У багатай кар'еры выканаўца, што расцягнулася на чатыры дзесяцігоддзі, цяжка адзначыць найважнейшы момант, — піша "Рэч Паспаліта". — Але ў выпадку Ч. Немана крытыкі і прыхільнікі пагаджаюцца, што кульмінацыйным пунктам яго кар'еры быў альбом "Энігматык" (1970 год), які стаў самым лепшым польскім рок-дыскам усіх часоў". У сваёй творчасці Чэслаў Немэн удала спалучаў рок, джаз, соўл са славянскай асновай і лепшай польскай паэзіяй.

У 70-я гады Чэслаў Неман часта прыязджаў у Беларусь, з аншлагамі выступаў у вялікіх залах, але пры гэтым часцей даваў канцэрты на сваёй радзіме, у Гарадзенскай вобласці.

*Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ, БелаПАН*

## А. ЛУКАШЭНКА ПАВІНШАВАЎ ХАРЭАГРАФІЧНЫ АНСАМБЛЬ "ХАРОШКІ" З 30-ГАДОВЫМ ЮБІЛЕЕМ

Менск, 27 лютага. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў беларускі дзяржаўны заслужаны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" з 30-годдзем з дня ўтварэння.

"Кожны канцэрт "Харошак" дарыць нам цудоўны вянок непаўторных танцаў, у якіх фальклорная спадчына спалучаецца з дасягненнямі сучаснай харэаграфіі", — гаворыцца ў віншаванні кіраўніка дзяржавы.

*Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.*

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на другі квартал 2004 года. Частка нашых чытачоў падпісалася на паўгода, аднак далёка не ўсе. У некаторых перад Новым годам не аказалася дастатковай грошай. Разам з тым газета "Наша слова" павялічыла аб'ём да 12 старонак і ў сувязі з гэтым пачала друкаваць мноства матэрыялаў вельмі важных у адукацыйным ды выхаваўчым плане і вельмі неабходных для практычнай дзейнасці арганізацый ТБМ, асабліва ў тых складаных умовах, якія ствараюць для нас улады.*

*Мы заклікаем сяброў ТБМ, хто падпісаўся толькі на першы квартал, або не падпісаўся зусім, аформіць падпіску з 1 красавіка 2004 года.*

*Чытайце "Наша слова", сябры! Будзьце з намі!*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі 3750 руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў 1

На 2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

# Рупліўцы Беларушчыны

## З дзённіка Марылі Ямант

*Праца на конкурс "Рупліўца Беларушчыны" студэнткі Менскага вучэбна – лінгвістычнага комплекса, гімназіі – каледжа № 24 Юліі Дзіцэвіч*

Косцік, любы!
За што нам с табой гэты боль?
Косцік, любы!
Адна я, а ў сэрцы з табой,

Твае вочы-
Праменьчыкі снегу і кроплі агню.
Твае вочы...
У іх вера і гонар за нашу зямлю.
Твае вочы...
Ні жалю,
ні страху – адвага і боль.
Твае вочы
Тады і сягодня, заўсёды са мной.

Твае рукі
Цяплом і пакутай агорнуць мяне.
Твае рукі-
Тады і сягодня, заўсёды са мной.

Твае словы –
То думкі, што ў сэрцы
свабодным жывуць.
Твае словы
Уздымаюць, натхняюць,
на подзвіг завуць.
Твае словы
І голас, што песняй
застаўся тваёй.


*Юля Дзіцэвіч з прызамі*

Твае словы
Тады і сягодня, заўсёды са мной.

Косцік, любы!
За што нам с табой гэты боль?
Косцік, любы!
Адна я, а ў сэрцы – з табой.

Не тады я хацела пачуць,
не прабачу сабе.
"Каго любіш?"
– "Люблю Беларусь,
а кахаю цябе..."

## Максім Гарэцкі. Жыццё за Радзіму.

*Праца на конкурс "Рупліўца Беларушчыны" студэнткі 1 курса БДУК Алены Мамонькі*

Яшчэ з часоў ліцэйскага навучання сярод шэрагу беларускіх пісьменнікаў асаблівую асалоду я адчувала чытаючы творы Максіма Іванавіча Гарэцкага. Пачыналі мы з "Ціхай плыні", дзе сачылі за сталеннем Хомкі Шпака, радаваліся яго поспехам і здзіўляліся несправядлівасці трагічнай смерці юнака; пасля знаёміліся з запіскамі салдата 20-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы ў рамане-хроніцы "На імперыялістычнай вайне", а потым мелі магчымасць чытаць і аповесць "Дзве душы", і дзённікава-хранікальную эпапею пра лёс беларускага сялянства ў 10-20 стагоддзях "Камароўскую хроніку", якую на жаль аўтару не давялося скончыць. А ў такіх творах як "Маці", "Дзёгаць" мяне з кожным разам усё больш і глыбей уражвае мастацтва пісьменніка выкрываць антыгуманную сутнасць эксплуататарскага грамадства і яго маралі.

Але я лічу неабходным падкрэсліць дзейнасць Мізэрыўса Монуса (псеўданім) не толькі як пісьменніка, але і як літаратуразнаўца, лексікографа, перакладчыка, фалькларыста, публіцыста.

І мне б хацелася выказаць сваю ўдзячнасць Максіму Беларусу (прэўданім) некалькімі вершаванымі радкамі:

*Таго не ведаеш, Баян,*
*Жыццё*
*паганка-злосць зламала,*
*Вакол пануюць страх,*
*падман,*
*А ім і гэтага ўсё мала!*
*Навіс над сэрцамі хаўрус,*
*Да ўлады пруць касмапаліты,*
*І ці не кожны беларус*
*Вузламі хітрымі спавіты!*
*З Дубоўкам, Коласам не раз*
*Да долі лепшай думкі слалі.*
*Уклаўшы слоўнік, без прыкрас*
*Жывую мову ратавалі.*
*І невядома ўжо Кузьме**,
*Каму баляць пра тое душы,*
*Што з ганьбы вырвацца сябе,*


*Алена Мамонька*

*Ліцьвін дагэтуль не прымусіў.*
*Будзіў мужыцкі род вянком*
*Яго ж народных думак-песень.*
*Яны з матулі малаком*
*Уздымалі дух і мрояў квецень.*
*Куды ж падзеліся, сышлі,*
*Змаганне, прага да свабоды,*
*З якімі лепшая сыны*
*Радзімы зведалі нязгоды?*

***Дзед Кузьма** *- адзін з псеўданімаў пісьменніка*

## Максім Гарэцкі. На ўзлёце...

*Праца на конкурс "Рупліўца Беларушчыны" студэнткі 1 курса ФІДК Алены Акуліч*

Стадваццаціголдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Іванавіча Гарэцкага дае нам зручную нагоду нанава перачытаць творчую спадчыну гэтага выдатнага мастака, зноў перагартаць старонкі біяграфіі пісьменніка.

Мусіць, няма ніводнага кутка беларускай зямлі, які б не меў сваіх выдатных пісьменнікаў, таленавітых мастакоў слова. Радзімай Максіма з'яўляецца Магілёўшчына. Менавіта тут, у глухім кутку Беларусі – вёсцы Малая Багацькаўка, 18 лютага 1883 года нарадзіўся будучы пісьменнік.

Радзіма і ўвесь свет пачынаюцца для кожнага чалавека, асабліва пісьменніка, з роднай хаты, з роднага кутка.

Дык якой жа была хата, дзе нарадзіўся Максім, дзе прабеглі яго дзіцячыя гады?

Пабудаваў яе дзед Кузьма. Падлога ў хаце была земляная, халодная, няроўная, пры ўваходзе налева – вялікая печ, праз усю хату цягнуўся пол – суцэльныя нары, агульны сямейны ложак.

Вялікая сялянская сям'я складалася з 12 душ. Жылі бедна, кожная луста хлеба, кожная лыжка былі на ўліку. Працавалі многа і часта хварэлі.

Але ў гэтай хаце маленькі Максімка быў на усё жыццё зачараваны дзівоснымі казкамі дзядзіны Хрысцёны, ціхімі песнямі сваёй матулі - Ахрасінні.

Трэба шукаць паратунку ад цёмнага жыцця. Іван Гарэцкі з малодых гадоў пайшоў "у свет" – служыць панам. Узяў да сябе і Максіма, захацеў "вывесці ў людзі" і аддаў яго ў навуку, у Альшанскае двухкласнае вучылішча.

Максім вучыўся выдатна, многа чытаў, пад уплывам свайго настаўніка палюбіў мастацкую літаратуру, навучыўся добра спяваць, граць на скрыпцы.

На канікулы Максім заўсёды прыязджаў у Багацькаўку. Вось калі было свята для ўсёй сям'і.

У 1909 годзе Максім па вялікаму конкурсу паступіў у Горы-Горыцкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, якое скончыў у 1913 годзе.

Часта Максім прыходзіў пехатою за 33 кіламетры ў родную Багацькаўку і дапамагаў бацькам у працы, наведваў сваіх родных і знаёмых, бываў на вечарынах, ігрышчах, вадзіў карагоды, запісваў народныя казкі, цікавыя словы і выразы.

Максім вельмі добра дэкламаваў вершы Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі.

Брат Гарэцкага Гаўрыла Іванавіч згадвае: *"Памятаю прагалінку ў светлым гаі ля Багацькаўкі ў пачатку лета: усё поўна сонейкам, росквітам, дзеці заваражана слухаюць Максімава чытанне. Гучыць неўміручая музыка купалаўскіх і коласаўскіх слоў:*

***Грай, мая жалейка,***
***пей, як салавейка!***
***Апявай нядолю, апявай няволю***
***І грымі свабодна,***
***што жыве край родны.***

***Край наш бедны, край наш родны!***
***Лес, балоты і пясок...***
***Чуць дзе крыху луг прыгодны...***
***Хвойнік, мох ды верасок.***

***Мой родны кут, як ты мне мілы.***
***Забыць цябе не маю сілы...***

***Паміж пустак, балот***
***беларускай зямлі,***
***На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,***
***Дрэмле памятка дзён,***
***што ў нябыт уцяклі,***
***Удзірванелы курган векавечны.***

*Гэтыя словы, вобразы, пачуцці заўладалі нашымі сэрцамі на ўсё жыццё".*

Вучыўся Максім на стыпендыю, жыў у інтэрнаце, дзе стваралася невялічкае вучнёўскае таварыства аматараў маладой беларускай літаратуры.

Вось што ўзгадвае аднакурснік і блізкі сябар Гарэцкага Андрэй Сухі: *"Сярод нашага маладога гурту я неяк адразу вылучыў Максіма, па сур'ёзнасці ў кожнай справе і адносінах да сяброў. У скорым часе нас злучыла і супольная цікавасць да беларускага друкаванага слова. Максім адзін з першых сярод нас пачаў пісаць па-беларуску карэспандэнцыі і малыя апавяданні з жыцця магілёўскіх сялян, адсылаючы іх у рэдакцыю "Нашай Нівы".*

*Варта было паслухаць яго гутарку, нашу мову, якая гучала ў яго вуснах, як песня, каб запомніць на ўсё жыццё. Ласкавасць, чуласць, праніклёнасць гарнулі да яго людзей. Ён меў вялікі дар чалавечнасці, крыштальнай людской дабраты. Як добра, што час зберог спадчыну, якую пакінуў Гарэцкі свайму народу, Радзіме, несмяротныя творы-праніклёнае слова пісьменніка-гуманіста, пісьменніка-грамадзяніна.*

*У заключэнне хачу сказаць, што на сваёй доўгай дарозе я сустракаў не так ужо і мала добрых і светлых людзей. Але вобраз Гарэцкага, чалавека вялікай душы і незвычайнага таленту помніцца ўсё ж па-асабліваму."*

Захапленне творчасцю беларускіх дэмакратычных пісьменнікаў 19 – 20 стагоддзяў разбудзіла ў юнака прагу ўласнай творчасці. Яна пачалася неяк непрыкметна, з маленькіх нататак, допісаў і фельетонаў, што друкаваліся на старонках "Нашай Нівы" за подпісамі "М. Б.", "М. Беларус" і, нарэшце, "Максім Беларус". Першая такая нататка з'явілася ў "Нашай Ніве" 26 верасня 1912 года.

Скончыўшы Паўлаўскае вайсковае вучылішча ў Петраградзе, Максім, ужо як прапаршчык, паехаў у Іркуцк на фармаванне часткі. Сібір уразіла Гарэцкага неабсяжнымі прасторамі, суровасцю і прыгажосцю.

Пасля рэвалюцыі Максім адразу пайшоў на савецкую службу: рэквізоўваў у 1918 годзе лішкі кватэрнай плошчы ў буржуазіі ў Смаленску, быў супрацоўнікам газеты "Звязда"

У той час у Смаленску жыў Я. Купала. Максім часта наведваў яго. Разам яны гутарылі пра беларускую літаратуру, пра мінулае Беларусі.

З пераездам рэдакцыі "Звязды " ў Вільню туды пераехаў у 1919 годзе і Максім. Пры раптоўным захопе Вільні белапольскім войскам Гарэцкі не паспеў уцячы.

Тут ён пасябраваў з пісьменніцай Леанілай Чарняўскай. Пазней яны ўспаміналі пра частыя пагромныя акцыі польскіх і літоўскіх буржуазных уладаў супраць беларускай працоўнай інтэлігенцыі, пра арышт Максіма і зняволенне яго ў турме на Лукішках.

У канцы 1923 года сям'я Максіма Гарэцкага пераехала ў Менск, дзе пасялілася на Савецкай вуліцы насупраць гарадскога скверу. Жылі ў невялікай камунальнай кватэры на трэцім паверсе.

З першага лютага 1926 года Гарэцкі стаў загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры.

Непадалёку ад дома Гарэцкіх цякла рэчка, за рэчкай – дэндралагічны парк. Сюды Гарэцкі хадзіў з дзецьмі. Гаманіў, паказваў што цікавае, частаваў кісленькай заячай капустай.

У 1928 годзе 2 кастрычніка Гарэцкі быў прызначаны вучоным спецыялістам інстытута навуковай мовы Інбелкульта.

А жыццё станавілася ўсё больш неспакойным...


*Алена Акуліч чацвёртая справа ў першым радзе*

№ 9 (644) 3 САКАВІКА 2004 г. Наша слова

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 52. ЗАЧАРАВАНЫ
**(М. Гусоўскі, паэма, заканчэнне.)**

**Споведзь**

Хлусіць, прабачце,
сын мой, не ўмею.
Не ўхваляю вашу я сцяжыну,
Як не назваў бы Госпада яўрэем
І любым сынам
роднай Палесціны.

Ваш зубр чужы
па нораву Касцёлу,
Калі лясною спакушае воляй.
Толькі міраж суцэльны навакола
І пад нагамі тлен адзін –
не болей.

У вашых гукаў
вельмі гучны пошчак,
Але таму не рады я – бядую.
Асобны ўзгадаваны
свой куточак
Душы хрысціяніна не пасуе.

Я б не параіў вам яго маланак.
Ды гордасць мітуслівая. здаецца,
У вас, мой сын,
знайшла сабе прыстанак.
О, беражыце ад запалу сэрца!

Яго грахоўнай, пэўна,
цісне глыбай.
Я тут адно і толькі бачу выйсце:
Зрабіць, нарэшце,
свой апошні выбар –
Хрысціянін вы ці ліцвін якісьці?

**Рэха**

Як і вытрымаць выпрабаванне?
Ясна чуеш і з гэтай скалы –
Скрозь усе туманы
вандраванняў
Кліча бераг здалёку былы.

Не чакаў ад бадзёрага цела,
Ды тугой занядужыў зусім.
Што было апрача – адляцела,
Толькі ён і застаўся адзін.

Але ведаеш сціплую тайну:
Паратунак – у гэтай журбе.
Твой вялізны прытулак
світальны
Не пакіне драбніцай цябе.

Не спяшайся гадаць
аб прысудзе,
Галавою астыўшы сівой.
Хіба толькі вяртанне і будзе
Часу самай сумленнай хадой.

Дзе б арганы да неба ні звалі,
Не бывала гучнейшых званіц.
Ные сэрца пад снежнаю хваляй,
Ад сасновага рэха баліць.

### 53. ЛІХАМАНКА

Не ведала душа нятленная
Ні кроплі ціхага прыстанку.
Было надвор'е, пэўна, дрэннае –
Хварэлі храмы ліхаманкай.

Як жаніхоў ім бойкіх сватала
Неўтаймаваная навала.
Ажно галовы вінаватыя
З вантробамі ванітавала.

Бядзе грахоў наканаваная,
Пасланая зямлі на гора,
Пранікла пошасць акаянная
І ў літоўскую прастору.

Як не бузіць было мяцежнікам
Сярод яе царкоўнай цвілі?
Ах, ненаедныя папежнікі,
Па горла ліхам завалілі.

Залезлі ў душу завіліста,
Набыўшы мудрасці ў Рыме.
Даўно пра Бога пазабыліся
Вы за дабротамі зямнымі.

Аж справу пачалі купецкую
Паўсюдна, як жыдоў сямейка.
Гарэлі бельмачы шляхецкія
На вашу тлустую зямельку.

Дык за малітвамі бязбожнымі
Не дзіва – у епіскапіі
Амаль усе паны вяльможныя
Пайшлі ў ярэтыкі крутыя.

Была ж і думка наравістая
Ў неўгамонных дзеях слізкіх –
Каб шыю верную не сціснулі
Ні патрыярх, ні папа рымскі.

Мы гэткімі занадта тлумнымі
Не раптам сталіся ў краіне.
Успамінала яе і думала
Літва аб пражскім Ераніме.

Што ж –
не пустэльнікі самотныя.
Ды гэтак моцна і трывала,
Наш розум доля ці на добрае
З заходняй мудрасцю звязала?

Бо глеба аж з-пад ног паехала
У бок няведамай асновы.

Апанавала надта вэрхалам
Яшчэ зялёныя галовы.

Тут крок адзін да недарэчнасці.
Ўсё тая ж ісціна старая –
Што хутка гэтак жа нявечыцца
Кумір, як лёгка і ўзнікае.

Ды руху хуткаму пярэчылі
Ля ног учэпістыя вузы.
Вядома – ў залатой сярэдзіне
Свае трывалыя спакусы.

Яны да твару
сціплым грэшнікам,
У ланцугі граніц закутым.
Наканаваныя памежнікам
Вагання вечныя пакуты.

Былі дарэмна ўсхваляваныя
Ад зіхацення зорак высі,
Смугою вочы напіханыя –
Бо з долам згодай не сышліся.

### 54. ВАЛОКА

Усё разлічыла дакладна
сваё акаянства,
Да пядзі прыбрала зямліцу
няўтольнае панства.
Адзін толькі крок –
а такі мудры сэнс і глыбокі –
Прастор падзялілі Хрыстовы
на клеткі-валокі,
На тыя кавалкі балючыя
долі-нядолі,
Дзе ў кожным пішчыць птушаня
раптам сціснутай волі.
Няроўна працягнуцца
свету палонныя вёрсты,
Бо розныя вельмі
між лесу й балота барозны.
Напеклі ж вакол багацеі
гарачых аладак!
Сама, кажуць, Бона, крулева,
усчала жалезны парадак.
Цяпер аніводным нікуды
не сунешся рухам.
І войт – гаспадар твой законны
над целам і духам.

Дык што ж , проша пана,
адмерай, як трэба, урэшце –
З каго колькі скуры злупіць
аж да самае смерці.
Ці харчам аброчным,
ці звонкаю важкай манетай –
Ты ўсім раскажы нам аб тым.
ваша мосць, без сакрэту.
Даруй нам за слёзы,
што трохі таго... цяжкавата.
Ледзь цягнуць валоку адну
дзве згалелыя хаты.
Ды што там – не молім нябёсы,
не дбаем аб цудзе,
Бо ведаем добра:
мы толькі валочныя людзі.
Да самага скону цярпець нам
ад вечнай галечы.
- Сусед, ці не досыць
так доўга занудліва енчыць?
Надзелі на шыю хамут –
цьфу ты, гэтай марокі!
Хай пыхнуць агнём разам з імі
ўсе тыя валокі.
Ці ж толькі нам дадзена лёсам
кляймо небаракі?
Бягіма на поўдзень, сябры,
за дрыгву – у казакі!
Тады ачуняе зямелька
ад шэрага смутку.
Ды хопіць, урэшце! Трымайцеся.
Вернемся хутка.

### 55. РАДА

Невядомая сціснула шыю віна.
І ўпілася ў цела.

Душным летам тады
зранку і да цямна
Навальніца грымела.

Не спынялася доўга
навала-жуда.
Цераз пекла вароты,
Цяжкай хмарай яна,
за бядою бяда,
Захлынала з усходу.

І нібыта зусім звар'яцелы стары
Над апошняй труною,
Прыхарошваўся попелам
Полацк сівы,
Палымнеў над Дзвіною.

Зноў паліла-нявечыла
целы людзей –
Гэта прышлыя здані
Абуджалі маланкамі
блудных дзяцей,
Ва ўлонне вярталі.

Абязволіў краіну
бяссільны адчай.
Доля здужыла злая.
Адышла, закацілася за небакрай
Наша слава былая.

Што яшчэ акрамя
ненажэрнай чумы
Навакол засталося?
І прасілі ў гадзіну ліхую паны
Ляха аб дапамозе.

Да сваяцкай душы
быў адзін толькі крок,
Шматгадовае сальда.
Прабіваўся, лучыў
між пяску ручаёк,
Грэла памяць Грунвальда.

Ці не згодны яднаў нашы роды
імпэт?
Ды было свету цесна.
Клапаціўся
аб зручнай спажыве сусед –
Не аб ратным братэрстве.

Як наладзіў ён лаянкі
прыкры базар –
Не пашчасціла ладу.
І захлынуў хаўруснікаў
люблінскі вар
Самай моташнай рады.

Мітусіўся пад столлю
такі пераплёт –
Ажно да галашэння.
Прыпіраўся да сценкі
"Пагоні" народ
Паспалітым рушэннем.

І з прамоваю кожнай усё гарачэй
Вусны пыхалі перцам.
А ў прасіцеляў слёзы
ліліся з вачэй –
Заклікалі да сэрцаў.

Але мёртва вакола стаяла сіло,
Мучыў спрыт пераможны.
Ані каліва літасці ў катаў было
Дапрасіцца няможна.

Што ж, усіх пагарэльцаў
лёс, пэўна, такі.
Дык і нас разам рэжце!
І абнялі заклятыя – хрусь! –
дружбакі,
Пабраліся нарэшце.

Ці не ў гэты піхаў нас
сабачы смурод
Свой штурхач з хатняй цвілі?
Хцівец мясцовы ласы
замежных даброт
Варушыў лад у тыле.

Ох, і жвава стараўся
ад роду халоп.
Дык звяло нас не раптам.
Ды шылася ўжо
ў прывілейны натоўп
Украінская шляхта.

І панесла краіну хутчэй
ці не ў рай
Ад вяльможнага веча.
І грымела: "Віват!"
Пачынаўся раздрай
Паспалітае Рэчы.

### 56. ЛЯХІ

Нядоўга языком малоць
Суседзі думалі ля плахі.
Рашуча ўвайшлі ў моц,
Прыціснулі панове ляхі.

Калі маскаль лез напрамкі,
У збройным пераконваў спрыце,
Суцешвалі: - мы ж сваякі,
Дык выратуем, не стагніце.

Парукай годнай – наша кроў
І славы шлях. Яшчэ не вечар!
Як заяц, будзе стрымгалоў
Ад нас нахабны вораг бегчы.

Запоўніць злыя вочы змрок,
Пясок чупрыны зацярушыць.
Ды й самі, холопцы, бачыць Бог.
Вы замаскаліліся дужа.

Здаецца, не ад чужаніц,
Але самахоць, каб пахучай,
Вам вываляцца ўсім карціць
У азіяччыне смярдзючай.

Дзівіце цэлы свет усім –
Такі народ занадта шэры.
Не, сорам сапраўды адзін –
І мова ваша, і манеры.

Ці вось – дапетрыць хоць бы раз
Паднесці хто жанчыне ружы?
Ды й з мужыком сваім не ў час,
Вы млява няньчыцеся дужа.

Жывеце ў грэшнай цемнаце
Сярод папоў даўгабародых.
Дык што тут вам казаць яшчэ –
Не выйшлі рылам для Еўропы.

Дзе там распешчаны Парнас –
Глядзець прывыклі праз байніцы.
Давайце ж, мілыя, да нас –
Шляхецтву гжэчнаму вучыцца.

І хопіць, хлопцы, з-пад ілба
Крычаць аб воўку і цяляці.
А мы дык з вашага хлява
Сапраўдную дзяржаву зладзім.

### 57. ЛЮДЗІ Ў ЦЫВІЛЬНЫМ

На службе, у царкве,
на баляванні,
У Полацку старым,
вучонай Вільні –
Былі найдаражэйшымі гасцямі
Прыемныя асобы ў цывільным.

Ніводнай не зрываліся асечкай,
Апойвалі ўсіх усмешак зеллем.
Іх розумы,
адточаныя ў спрэчках,
Маланкамі імкліва бліскацелі.

Павеваў новых выспявалі гукі.
Прыйшлі й да нас
разумныя галовы –
Яскравейшыя таленты навукі.
Майстры
неперайзыйдзенага слова.

Апосталы затоенага руху.
Як гаварылі з-за сваёй вуалі!
Бы пальчыкі жаночыя за вухам
Пяшчотна гэтак
зранку казыталі.

Спакой душы
так проста не даецца.
Вядома –
не салодка забаўляцца –
Духоўнікамі любымі да сэрца
Іх запрашалі пышныя палацы.

Хто б вытрымаў
цянёты заляцанняў,
Дзівоснага пазбег бы захаплення?
Жаночых душ лічылся лаўцамі,
Катоўнямі жывымі ачмурэння.

У школы іх
кругом спяшаўся кожны –
Умелі
юнакоў прывабіць грэшных.
Вучылі іншы раз,
нават, без грошай,
Ды не было
настаўнікаў найлепшых.

Не ўсе агулам вучню неслі веды,
Бо абіралі спраўную пуціну.
Рабілі ж у залежнасці ад мэты
Люцыпарам яго ці херувімам.

Аб вечнай толькі рупіліся высі,
Айца нябёс
парушаным прыстанні.
Дасведчанымі ментары зваліся
Ісуса непахіснымі сынамі.

Быў свой сігнал
для рухаў іх імгненных
Хавалася, бы сталь,
за вокам пільным.
І свет не ведаў
людцаў больш ваенных
За грамадзян чароўных
у цывільным.

*(Працяг у наступным нумары.)*





(Працяг. Пачатак у папяр. нумарах.)

Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

***Самойлаў.*** Поп сваё, чорт сваё – аддай маю торбу.

***Касцюшка.*** Вы што, сапраўды ўпэўнены, што наша торба застанецца ў вашага папа на вякі вечныя?

***Самойлаў.*** А ці не перайсці нам, пан генерал, ад эўфемізмаў ды намёкаў-эківокаў да справы. Вы ж сапраўды маеце дачыненне не з балакам, а з генерал-пракурорам яе вялікасці імператрыцы, які менавіта па яе даручэнні будзе дамагацца ад вас таго, у чым імператрыца зацікаўлена.

***Касцюшка.*** Наўрад ці задаволю я цікаўнасць яе вялікасці. А з вамі я ахвотна пагутарыў бы пры ўмове, што вы не станеце дамагацца ад мяне западацькзаклассці сваіх сяброў-паплечнікаў па арганізацыі паўстання, стварэнні войска, і яго ўзбраенні, формаў ідэалагічнай работы сярод свайго народа і вашых войскаў і, вядома ж, планаў на аддаленую нашай паразай перспектыву. Карацей кажучы, з майго боку гаворка можа быць пра што хочаце, толькі не пра тое, чаго і ад мяне, і ад вас чакае імператрыца.

***Самойлаў.*** Вы можаце зразумець, што генерал-пракурору не толькі дзіўна, але і дзіка чуць ад вязня-смяротніка такія размовы.

***Касцюшка.*** А вы не хвалюйцеся і не спяшайцеся хаваць мяне жывога. Запэўніваю вас, што я чалавек не толькі абстраляны. Я яшчэ мужчына, рыцар і яшчэ палітык, які дбае не столькі пра сябе, колькі аб лёсе ды працвітанні сваёй дзяржавы і яе народа выключна на ўлонні Еўропы, а не пад пятой азіяцкай тыраніі. Потым ніхто дабрачынна не жадае ўлады. Мне яе ўручылі ў крытычны момант. Не ведаю, ці заслужыў я гэты давер, але ведаю тое, што даручаная мне ўлада была толькі сродкам для паспяховай абароны маёй Радзімы.

***Самойлаў.*** Я тут усякіх пабачыў і мне вельмі цікава, адкуль у вас усё гэта, у сэнсе ўпэўненасці?..

***Касцюшка.*** Ад усяго патроху, але толькі не ад фанатызму. Хутчэй за ўсё – гэта ў мяне, бадай што, ад Русо, Мантэск'е, Дзідро, Вальтэра ды іншых. А найперш ад Францыі, дзе перамагла рэвалюцыя, ад Амерыкі, што сілай зброі сваіх самаахвярных сыноў пазбавілася рабства.

***Самойлаў*** *(разгублена)*. Што вы вярзеце, генерал? Хто-хто, дзе-дзе, а ў Еўропе ўсе ведаюць, што Русо, Мантэск'е, Дзідро і Вальтэр -- куміры асветніцы яе вялікасці Кацярыны!

***Касцюшка.*** Ахвотна вам веру, але і вы мне паверце, што мы па-рознаму чыталі спаведалі французскіх асветнікаў: яна як ханжа і прытворшчыца, а я як прыхільнік Вялікай Французскай рэвалюцыі і ідэальнай рэспублікі. Ад аднаго ўпамінання Марата і Рабесп'ера вашу імператрыцу кідае ў жар, і ў холад, а мяне іх думкі прывялі да прызнання канцэпцыі народнага суверэнітэту і незалежнасці. Бо кожны чалавек, якой бы то ні было краіны, саслоўя або веры мае прыроджанае права атрымаць свабоду, валодаць уласнасцю, мець волю і роўнасць, у тым ліку і прыгонныя сяляне. Ім жа, як і ўсім іншым, - свабода перамяшчэння, свабода веравызнання, адукацыя і асвета!

***Самойлаў*** *(здзіўлена, абурана)*. Свабода, адукацыя і асвета для чэрні, для быдла?! І дзеля гэтага начальнік паўстання генерал-лейтэнант Касцюшка падымае супраць Расіі не толькі быдла Каралеўства і Княства, але войска і шляхту?!

***Касцюшка.*** Толькі пасля таго, як войска Расіі супольна з войскам Прусіі і Аўстрыі пачалі ў трэці раз дзяліць паміж сабою Княства і Каралеўства. І робяць гэта ў той час, калі мы пачынаем уладкаванне сваёй дзяржавы паводле зацверджанай соймам Канстытуцыі ад 3 траўня 1791 года, другой Канстытуцыі ў свеце пасля амерыканскай! Памятаю, як у сваім лісце да Дзеляруша, аднаго з дзеячаў па падрыхтоўцы якабінскай Канстытуцыі Францыі, я пісаў апошняму: "Ні для вас, ні для нас, грамадзян Каралеўства і Княства, не можа быць волі без канстытуцыі. Толькі яна можа замацаваць іх шчасце, ажыццявіць нашыя спадзяванні і пакончыць з тыраніяй".

***Самойлаў.*** Гэтым вы і пацвярджаеце, што свядома прынялі ідэю рэвалюцыйнай дыктатуры і тэрору крывавых якабінцаў Марата і Рабесп'ера, як супраць свайго народа, так і супраць нашых войскаў.

***Касцюшка.*** Што да майго народа, то вы памыляецеся. Адстойваючы прынцыпы законнасці і справядлівасці ва ўмовах рэвалюцыйнага выбуху народаў Княства і Каралеўства, я, як начальнік паўстання, у адрозненне ад камандуючага расійскімі войскамі, не дапускаў свавольства, дэспатызму і крывавых распраў. Наша рэвалюцыя праводзілася не дзеля таго, каб зніць усякую аброць са свавольства. Насупраць, яна ставіла сваёй мэтай устаноўлене парадку, падпарадкаванне закону. Аснова свабоды для мяне і маіх паплечнікаў была ў правасуддзі. Без правасуддзя свабода – хвароба грамадства. Таму мы і не дапускалі ніякай тыраніі, ад каго б яна ні зыходзіла.

***Самойлаў.*** І дайшлі да звяржэння законнага караля.

***Касцюшка.*** Што да караля, якога яе вялікасць імператрыца пасадзіла на карак нашаму народу, то ён пад час усенароднага абурэння і паўстання ператвараўся ў бязвольнага і бязглуздага гасудара-здрадніка. Дык што ж з ім яшчэ было рабіць?

***Самойлаў.*** Калі не сакрэт, генерал,у чым заключалася канчатковая мэта вашай рэвалюцыі?

***Касцюшка.*** Вядома ж, яе канчатковая перамога ў Польшчы і Вялікім княстве, а таксама садзейнічанне хуткаму распаўсюджанню рэспубліканскай ідэі ў Расіі. І ніякага сакрэту, каб не зводзіць у зман ні генерал-пракурора, ні імператрыцу.

***Самойлаў.*** Вы сапраўды мужны чалавек.

***Касцюшка.*** Што ні кажыце, а прыемна пачуць такія словы ад генерал-пракурора яе манаршай вялікасці. Але Томас Джэферсан – аўтар Дэкларацыі незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі, ацаніў мае грамадзянскія якасці яшчэ вышэй, сказаўшы, што "Касцюшка – гэта найчысцейшы сын свабоды, якога я калі-небудзь бачыў, і той свабоды, што ўключае ўсіх, а не жменьку выбраных ці багатых".

***Самойлаў.*** І за што такі высокі гонар генерал-лейтэнанту?

***Касцюшка.*** Як за што?! Вядома ж, за ўдзел у барацьбе супраць рабства. І, відаць, у прыватнасці, за пабудову па ўласнаму праекту цвержы "Вест Пойнт", якая адыграла вырашальную ролю ў бітве за перамогу Паўночнай Амерыкі над яе рабаўладальніцкім Поўднем.

***Самойлаў.*** І ўсё ж вы фанат, генерал-лейтэнант, і хваліко да таго ж.

***Касцюшка.*** Рыцар я. Проста рыцар.

***Самойлаў.*** Гэта ўжо нейкая нясціпласць пры ўсім тым, хто б пра вас што ні сказаў.

***Касцюшка.*** Ніякай нясціпласці. Я сапраўды скончыў Варшаўскую Рыцарскую школу. І менавіта там ідэалам справядлівасці для мяне стаў грэк Цімамон, які некалі даў волю свайму краю, раздаў зямлю тым, хто яе ўрабляў, склаў мудрыя законы. А сабе нічога не браў. Свайму юнацкаму куміру я быў верным усё жыццё і застануся верным яму да апошняга дня жыцця.

***Самойлаў.*** І чаго вы, як кажуць, рыцар без страху і папроку, дасягнулі, прыйшоўшы фактычна да свайго апошняга дня.

***Касцюшка.*** Я ад душы жадаў служыць Бацькаўшчыне, але не змог гэтага зрабіць і вельмі смуткую аб гэтым. Паўстанне пацярпела жорсткую паразу, але ж яно абудзіла дух народаў у святой барацьбе за волю і незалежнасць. А гэта ўжо не так мала... А што маеце вы ў сваёй паўазіяцкай дэспатыі пад назвай Расійская імперыя на чале з ілжэасветніцай, рукі якой па локці ў нашай і не толькі ў нашай крыві.

***Самойлаў.*** Вы пераходзіце ўсякія межы, генерал. І мы спынім гаворку, як толькі вы скажаце мне як проста цікаўнаму чалавеку, чаму ўсё ж ваша авантура пацярпела аглушальную паразу. Я не думаю, што тым самым вы выдасце пракурору нейкую таямніцу.

***Касцюшка.*** Ніякай таямніцы. І я задаволю вашу простую чалавечую цікаўнасць. Вы нават можаце падзяліцца маімі высновамі з імператрыцай. Павінна ж яна хоць што-небудзь ведаць.

***Самойлаў.*** У гэтым вы сапраўды маеце рацыю.

***Касцюшка.*** Па-першае, паўстанне вымушана пачалося раней, чым было дастаткова падрыхтавана. Па-другое, нам хдрадзіла Францыя, хоць наш супраціў Расіі якраз і выратаваў французскую рэвалюцыю, здрадзіў свайму народу кароль і буйныя магнаты, што перапалохаліся шляхты і сялян касінераў. Магнатам, як нікому, было што губляць і яны выбралі здраду. І нарэшце, стварэнне аб'яднанага, а дакладней, адзінага рэвалюцыйнага ўрада і адзінай дзяржавы замест канфедэрацыі Княства і Каралеўства, што па задуме павінна было садзейнічаць цэнтралізацыі ўлады. Ліцвін, беларус па-вашаму, Касцюшка не жадаў такой долі для сваёй Бацькаўшчыны, але і выступіць супраць рашэння ўраду магчымасці не меў. Памкненні Польшчы ліквідаваць Княства, а граніцы Рэчы Паспалітай ўжо аднаго народа адсунуць за Смаленск было і стала яе памылкай, пралікам. Аўтарытарнае рашэнне Польшчы не магло не насцярожыць ліцвінаў і жамойтаў і іх лідараў, а найперш Якуба Ясінскага. Грэх мой перад нябожчыкам яшчэ не замолены мною перад Усявышнім. Добра было б для абодвух народаў, каб Польшча хоць у душы пакаялася перад Вялікім Княствам і маімі суродзічамі-ліцвінамі.

*Усталёўваецца доўгае паўза. Самойлаў ходзіць па вязніцы. Схіляе галаву, горбіцца ў скрусе Касцюшка.*

***Самойлаў.*** А наогул, як вы сталі вайскоўцам, воінам? Далібог цікава.

***Касцюшка.*** Хутчэй за ўсё гэта ў мяне спадчыннае. Бацька быў знаны ваяр. Я змалку ганарыўся і любаваўся ім, калі яму выпадала завітаць дамоў паміж бясконцымі войнамі з Масковіяй. Гэта і прывяло мяне ў Рыцарскую школу. А потым кароль парэкамендаваў мяне ў парыжскую школу мастакоў. Толькі я там не столькі маляваў, колькі вывучаў творы французскіх асветнікаў і рэвалюцыянераў, а таксама матэматыку ды вайсковую інжынерыю. Па тым часе вайскоўцы-ліцвіны яшчэ не патрэбны былі Польшчы. І я падаўся на вызваленчую вайну ў Амерыку, з якой і вярнуўся на Радзіму брыгадным генералам.

***Самойлаў.*** Навошта вярнуліся?

***Касцюшка.*** На кароткае пытанне кароткі адказ: каб прывезці ідэі і досвед амерыканскай рэвалюцыі, выкладзенай у Дэкларацыі незалежнасці Злучаных Штатаў ды рэалізаваць іх на сваёй роднай зямлі.

***Самойлаў.*** Маеце сям'ю, маёнткі, прыгонных?..

***Касцюшка.*** Прыгонных адпусціў на волю. А адзіную маю любую Людвіку бацька магнат-прыгоннік прайграў у карты іншаму магнату ў залік свайго доўгу, сказаўшы мне маладому выкладчыку малявання: "Галубкі не для вераб'ёў, а дочкі магнатаў не для шляхцюкоў".

***Самойлаў.*** Даруйце, генерал, за бестактоўнае пытанне.

***Касцюшка.*** Нічога. Генерал-пракурор мае магчымасць задаваць генералу-вязню любыя пытанні.

***Самойлаў.*** Смерці не баіцеся?..

***Касцюшка.*** Няхай гэта вас не трывожыць.

***Самойлаў.*** Мой пераказ нашай гутаркі можа незадаволіць хворую імператрыцу і вас паклічуць у катавальню...

***Касцюшка.*** Значыць, мне давядзецца памерці ў катавальні, а не на плошчы. Не бачу вялікай розніцы. А мой народ на гэты час мяне аплакаў. *(Цытуе.)*

Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей па каменю
Калі той пясок узыйдзе,
Касцюшка з вайны прыйдзе.
Ляціць воран цераз мора,
А лятучы, крача.
А хто ж майго Касцюшкі
Магілку. аплача.

*Словы кранаюць генерал-пракурора, але ён авалодвае сабою і падыходзіць да вязня.*

***Самойлаў*** *(строга)*. Ланцуг і рукі!

*Касцюшка падымае рукі.*

І ланцуг!

***Касцюшка.*** Толькі рукі...

*Самойлаў некаторы час чакае, потым сам падымае ланцуг і замком злучае яго з наручнікамі.*

***Самойлаў.*** "Дабрашчасныя гнаныя за праўду, бо іх ёсць Царства Нябеснае". Дабравесце ад Цімафея.

***Касцюшка.*** "Дабрашчасныя міласэрныя, бо яны памілаваны будуць". З таго ж Дабравесця...

*Самойлаў выходзіць. Дзверы вязніцы зачыняюцца. Сцэна зацямняецца.*

### XIV

*Кацярына ІІ за сваім рабочым сталом. Ёй не здаровіцца.*

*З'яўляецца цырымоніймайстар.*

***Цырымоніймайстар.*** Ваша вялікасць, генерал-аншэф Сувораў з рапартам!

***Кацярына ІІ.*** Прасі графа. *(Ідзе да дзвярэй).*

*З'яўляецца Сувораў.*

***Сувораў*** *(зрабіўшы цырыманіяльны паклон і стаўшы па стойцы "зважай")*. Ваша вялікасць! Ура! Варшава наша!

***Кацярына ІІ.*** Ура, фельдмаршал! *(Абдымае і тройчы цалуе Суворава).*

*Уваходзіць цырымоніймайстар з залатым падносам, на якім стаіць дарагая шкатулка і ляжыць пазалочыная шпага.*

Прымі, дарагі Аляксандр Васільевіч, знакі фельдмаршалскай доблесці за вернае служэнне Расійскай Імперыі і яе імператрыцы.

***Сувораў.*** Царыца-матухна, я ашаломлены вашай міласцю.

***Кацярына ІІ.*** А я ашалаломлена вашым ваенным майстэрствам, адвагай і доблесцю!

***Сувораў.*** Я толькі выконваў свой абавязак перад Расіяй і яе вялікай імператрыцай.

***Кацярына ІІ.*** Вы, граф, прынеслі Расіі і яе імператрыцы тое, чаго яны хацелі і чакалі 30 гадоў! Няма больш Вялікага Княства! Няма і Каралеўства Польскага.

***Сувораў.*** Так, царыца-матухна. Затое ёсць Вялікая Расія!... Я служу ёй і вашай вялікасці і гатовы выканаць любы новы манаршы загад!

***Кацярына ІІ.*** Пакуль ніякіх загадаў. Але першы рапарт аб вялікай, гістарычнай перамозе над ганарлівай дзяржавай двух народаў я хацела б прыняць ад вас асабіста, вялікі фельдмаршал.

(Заканчэнне на ст. 12.)

*(Заканчэнне.)*

Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

***Суворaў.*** Ёсць здаць рапорт! *(Бярэ падораную шпагу як указку і падыходзіць да геаграфічнай карты Рэчы Паспалітай.)* Вялікая царыца! Не прыніжаючы вайсковай доблесці не столькі галоўнакамандуючага князя Рапніна, колькі адвагі расійскага салдата, пэўныя поспехі ў задушэнні паўстання ўсё ж былі і да таго, як я меў гонар прыняць ад Рапніна камандаванне фронтам. Ахвяры нашы, як цяпер высвятляецца, былі велізарнымі. Тым не менш былому камандуючаму ўдалося разграміць паўстанцкія аддзелы генерала Віельгорскага пад Вільняй *(паказвае шпагай на карце)* і значна вынішчыць бунтаўшчыкоў напачатку з генераламі Серакоўскімі і Білякам, а таксама палкоўнікам Грабоўскім, што займалі прастору Віленшчыны, Меншчыны, Случчаны і іншыя. Пад Солямі *(паказвае на карце)* быў разгромлены знакаміты музыкант-магнат Міхал Клеафас Агінскі. Нямала давялося пабегаць майму папярэдніку і за верхаводам усяго паўстання ў Княстве знакамітым генерал-лейтэнантам Якубам Ясінскім. Нялёгкімі былі баі і за Вільно. Па дакладах маіх генералаў, адважна і хітра дзейнічаў няўлоўны Серакоўскі. 2 жніўня пад Слонімам *(паказвае на карце)* яго авангард, які налічваў да 4–5 тысяч штыкоў і шабель, сутыкнуўся з корпусам генерала Дэрфельдэна. Нашы панеслі страты да трохсот чалавек забітымі і параненымі. Пасля чаго Серакоўскі падаўся на Ружаны *(паказвае на карце)*, Бярозу і далей пад Берасце. Відаць, яму стала вядома, што з турэцкага фронту праз Украіну я іду са сваім корпусам цуда-асілкаў. 17 верасня нам было наканавана сустрэцца пад Кобрынам. З раніцы і да трох гадзін дня доўжылася, можа, найбуйнейшая бітва мінулай цяпер кампаніі.

У ёй з абодвух бакоў змагалася каля 20 тысяч вояроў. Флангавым манеўрам *(паказвае на карце)*, перайшоўшы рэчку Трасцянку, я вывеў мае аддзелы ў тыл паўстанцам і захапіў панавальную вышыню. Атакаваны непрыяцель змагаўся моцна і болей за пяць гадзін. Ніхто не лічыў, колькі іх, у асноўным недасведчаных касінераў, як капусту, пасеклі мае казакі і не толькі на полі бою, але і ў сценах касцёла, дзе яны шукалі паратунку ад немінучай смерці. І берагі, і вада той Трасцянкі былі крывавымі. З невялікімі рэшткамі мяцежнікаў Серакоўскі збег за Мухавец. Тут, каля Тэраспаля 19 верасня я і дабіў яго канчаткова. Казалі, што ад яго корпуса ацалела не больш за 700 бунтаўшчыкоў, а каля трох тысяч засталося на полі бою. У той жа дзень быў знішчаны і аддзел генерал-маёра Князевіча.

Напярэдзе была Варшава. Аб'яднанае 24-тысячнае расійска-прускае войска прымусіла корпус Касцюшкі адступіць ад Кракава і захапіла яго. Касцюшка адышоў да Варшавы. Дзякуючы ўмелым манеўрам Касцюшкі, а яму не адмовіш у вайсковым майстэрстве, генералу Ферзену давялося адступіць ад Варшавы. 10 кастрычніка Касцюшка выступіў супраць перазызходзячых сіл Ферзена і быў літаральна разгромлены і вынішчаны пад Мацёёвіцамі. Нашы страцілі больш за тысячу трыста воінаў забітымі і параненымі. Усё ж у Касцюшкі было 15 тысяч.

Мне дасталася Варшава. Яе прадмесце Прагу я сходу ўзяў 4 лістапада. Скажу вам, ваша вялікасць, шчыра — гэта была сапраўдная разня. Мае волаты адчулі нарэшце перамогу і канец вайны і літаральна высеклі і выразалі тысячы жыхароў — жанчын, дзяцей, старых, а найперш жыдоў, — і каля дзесяці тысяч паўстанцаў, чатыры тысячы ўзброеных варшавян — дабраахвотнікаў. Казалі, што больш за дзве тысячы ўцекачоў патанулі ў Віслe, ратуючыся ад немінучай смерці, бо палонных на гэты раз мы не бралі. Пасля гэтага Варшава капітулявала. На яе барыкадах загінуў верхавода паўстання ў Вялікім Княстве Якуб Ясінскі, якому на гэты час Касцюшка прысвоіў званне генерал-лейтэнанта. Рапорт скончаны, ваша вялікасць!

***Кацярына II.*** І вайна таксама!

***Суворaў.*** Як для каго, царыца-матухна, а мяне чакаюць туркі...

***Кацярына II.*** Што з каралём, фельдмаршал?

***Суворaў.*** Нічога асаблівага, ваша вялікасць, калі не лічыць, што кароль адрокся ад трона.

***Кацярына II.*** Далучыце яго да маёй выставы тронаў-трафеяў.

***Суворaў.*** Гэта немагчыма, царыца-матухна...

***Кацярына II*** (здзіўлена). Не разумею...

***Суворaў.*** Мае салдаты меркавалі, што ваша імператарская вялікасць паставіць польскі і вялікакняжацкі трон там, куды памазанікі Божыя пехатою ходзяць... і прадбачліва выразалі ў седале адпаведную дзірку пад судно.

*Кацярына гарэзліва і ад душы смяецца.*

***Кацярына II.*** Салдацкі жарт, але дасціпны... Я дару вам за яго Кобрынскі павет. Там больш за 13 тысяч душ.

*Суворaў схіляецца ў нізкім паклоне. З'яўляецца цырымонімайстар.*

***Цырымонімайстар.*** Ваша вялікасць, "дарагі" госць дастаўлены.

***Кацярына II.*** Вельмі дарэчы...

*Цырымонімайстар выходзіць.*

***Суворaў.*** Дазвольце ісці, царыца-матухна?!...

***Кацярына II.*** Хвілінку, граф, у мяне вам таксама сюрпрыз...

*Увaходзіць Агінскі ў цывільным еўрапейскім гарнітуры. Здзіўлена глядзіць на Суворава.*

Знаёмцеся, Аляксандр Васільевіч — Міхал Клеафас Агінскі. Выдатны кампазітар і, відаць, не менш выдатны воін-паўстанец, дакладней, адзін з верхаводаў паўстанцаў у Княстве.

***Суворaў.*** Не меў гонару сустрэцца ў баі...

***Кацярына II.*** Міхал Клеафас, я даўно і добра знаёма з вашым дзядзькам Міхалам Казімірам Агінскім, дарэчы, з вашым хрэснікам, фельдмаршал, па разгрому яго трохтысячнага мяцежнага войска пад Сталовічамі гадоў з дваццаць таму. Як ён цяпер?

***Агінскі.*** Пасля амністыі вярнуўся з эміграцыі, адмовіўся ад вялікай гетманскай булавы, атрымаў секвестраваныя маёнткі. Заснаваў у Слоніме друкарню, оперны тэатр і капэлу, пабудаваў канал, які носіць яго імя. Піша музыку, музыцыруе...

***Кацярына II.*** Гэта прыемна чуць; *(пасля паўзы)* Міхал Клеафас, я дам вам волю, вярну маёнткі, калі вы прынясеце мне прысягу як расійскай імператрыцы, а як жанчыне падорыце самы любімы і дарагі вам нечым паланез.

*Агінскі пасля паўзы схіляе галаву, ідзе да раяля, садзіцца за інструмент. Спачатку ліецца ціхая сумная мелодыя, потым яна набірае аркестровую моц і запаўняе ўсю прастору, затым паволі зноў зыходзіць да сольнага выканання. Скончыўшы музыку, Агінскі некаторы час сядзіць за інструментам, бездапаможна апусціўшы рукі. Паўза зацягваецца.*

Як вы назвалі свой твор, маэстра?...

***Агінскі*** *(устаўшы з-за раяля)*. "Развітанне з Радзімай", ваша вялікасць...

*Зноў доўгая паўза. Святло паволі згасае. На прэсцэніюме пражэктар высвечвае Цырымонімайстара.*

***Цырымонімайстар*** *(да гледачоў)*. Імператрыца Кацярына II адышла ў лепшы свет. Імператар Павел I памілаваў Тадэвуша Касцюшку, дараваў жыццё, волю і тысячу душ прыгонных. Ад прыгонных апошні адмовіўся і з'ехаў у Амерыку.

*Заслона.*

# Крыжаванка "Адновім мову"

*Склаў Яўген Ляхаў*

***Па гарызанталях:*** 1. Аддаленая ад цэнтра частка горада, вёскі. 4. Вялізнае трунападобрае збудаванне (разм.). 10. Шост з тонкага доўгага ствала дрэва, ачышчаны ад галля. 11. Пацяпленне зімой ці вясной пасля марозаў. 14. Беларускі паэт. Аўтар кніг "Россып", "Санеты", "Светлацені" і мн. інш. 15. Патрава, страта, прычыненая жывёлай. 16. Воінскае званне малодшага камандзіра ў арміях некаторых краін. 19. Персаніфікацыя перамогі ў Старажыт-най Грэцыі. 20. Буйны магазін самаабслугоўвання з таварамі прадуктовымі і прамысловымі. 21. Горад-порт у Францыі на беразе праліва насупраць Англіі. 24. Паэма А. С. Пушкіна. 25. Даўнейшая кітайская гульня, мэта якой складанне розных фігур з сямі састаўных частак квадрата. 26. Род коўдры для немаўляці. 28. Курортная мясцовасць у Літве. 34. Частка свету. 35. Прылада – засцярога ад уколаў іголкай пры ручным шыцці. 36. Горад у Германіі – радзіма К. Маркса. 39. Абазначэнне ступені ведаў вучня; тое, што і адзнака. 40. Сродак пераправы ўпоперак ракі. 41. Скура галавы разам з валасамі – ваяўнічы трафей індзейцаў Паўночнай Амерыкі ў былыя часы. 44.Дэталь затвора многіх сучасных фотаапаратаў. 45.Армянская футбольная каманда, якая аднойчы была чэмпіёнам СССР. 46.Дарожная крытая павозка на чатырох колах. 47.Даўней: набор зброі конніка – лук з чахлом і калчан са стрэламі.

***Па вертыкалях:*** 1. Пачатковая, уступная частка твору, кнігі. 2. Польскі парны народны танец. 3. Паныль, надакучлівы чалавек. 5. Міжнародны аэрапорт у Францыі. 6. Другая назва пумы. 7. Від, тып скульптурнага твору. 8. Засцерагальны "абутак" каня. 9. Украінскі струнны народны інструмент. 12. Агародны караняплод. 13. Вялікае скопішча марскіх караблёў. 17. У недалёкім мінулым – марка трактара, здольнага выконваць самыя разнастайныя работы. 18. Баваўняная тканіна, з якой шыюць звычайна бялізну. 22. Сталіца Канады. 23. Буйная драпежная жывёла сямейства кашэчых. 27. Галоўны герой пасляваеннага твору Ц. С. Сёмушкіна з жыцця народаў Чукоткі ("... ідзе ў горы") 29. Буйная чалавекападобная малпа ў Афрыцы. 30. Прыгожы прыродны каштоўны камень. 31.Аснова, каркас калёс. 32. Назва магілёўскага горада Слаўгарада да 1945 года. 37. Паўвостраў у Цэнтральнай Амерыцы, па плошчы амаль роўны тэрыторыі Беларусі. 38. Вельмі скупы чалавек. 42. Маладая авечка (разм.) 43.Сузор'е Паўднёвага паўшар'я неба.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 1. 03. 2004 г. Замова № 512.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)